«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №12 (184), снежань 2021 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (184) (снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online

## Змест



**ЭСЭ:** згадкі Алеся ЖУКА пра Яўгенію ЯНІШЧЫЦ ........ с. 2
**ДЫЯЛОГІ:** «Я быў "ідэалагічным дыверсантам"» – працяг гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ .. с. 3
**ФОРУМ:** мініяцюра «Цалавацца больш нельга…» Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА і «дармаедскі» фельетон Віктара САЗОНАВА ........ с. 4
**ПАЭЗІЯ:** вершы Анатоля БРУСЕВІЧА з кнігі «Крылы» ........ с. 5
**П'ЕСА:** «жахлівы выпадак у адной дзеі» Аляксандра АПОНА «Штаны» .... с. 6, 7
**ПАЭЗІЯ:** нізка «Сцежкі да вершаў» Яўгена СКІБСКАГА ........ с. 8
**ПРОЗА:** новыя аповеды Сяргея КАЛЕНДЫ ........ с. 9
**ПЕРАКЛАДЫ:** вершаваныя нізкі ўкраінак Тацяны ЯКАВЕНКІ і Аксаны ШАЛАК у паэтычных перастварэннях Валянціны ОСІПАВАЙ і Сяргея ПАНІЗЬНІКА ........ с. 10
**КРЫТЫКА:** рэцэнзія Івана АКУЛІЧА на кнігу літаратурнай спадчыны Тодара ЛЕБЯДЫ «Плачуць ліпы на кургане» ........ с. 11
**СВЕТ:** артыкул Яна ГАНАРОВІЧА «Юбілейны Дастаеўскі: карані маральныя і зямныя» ........ с. 12



wir.by

# Як прыгатаваць мову ВКЛ

*Лізавета ДУБІНЧЫНА, Марыя БАДЗЕЙ*

**Вакол беларускай мовы з зайздроснай рэгулярнасцю разгараюцца баталіі, і тычацца яны не толькі яе сучаснага стану. Мовазнаўцы і гісторыкі і па сёння не могуць пагадзіцца наконт таго, на якую мову Скарына пераклаў Біблію, што можна лічыць уласна беларускай мовай і з якіх часоў варта адсочваць яе развіццё. Паспрабуем прыгледзецца да мовы Вялікага Княства Літоўскага, бо ўсім вядома: лепей адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць.**

Дык як жа прыгатаваць мову ВКЛ?

Старабеларуская, канцылярска-славянская, старазаходняруская, стараўкраінская, літоўска-руская, літоўска-славянская, руска-польская, старозападнорусское наречие, простая мова, język polsko-białoruski, Ruthène… Дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага цяпер мае каля 40 імёнаў. Дыскусіі аб тым, якое з іх пасуе найлепш, цягнуцца ўжо два стагоддзі і не збіраюцца спыняцца.

Мова, якая мае столькі назваў, — страва для сапраўдных гурманаў. Кацёл гісторыі варыць усё, што ў яго трапляе, а вынік адчуваецца на языку.

Самі ж жыхары Вялікага Княства Літоўскага называлі сваю мову «руская». Прыклад з артыкула Статута 1588 года: «а писар земский маетъ по руску словы и литеры писати», што значыць «беларускія словы кірыліцкім пісьмом». Мову ж усходняга суседа яны называлі «маскоўская»: «галасы утварывшы мовою московскою»; «подал ку акътыкованю до книгъ кгродскихъ Пинскихъ грамоту руским московским писмомъ... писаную». Што ж датычыць самога ўсходняга суседа, то там гэтую мову не разумелі і называлі «літоўскай» ад слова «Літва».

Відавочна, што ў сучасным разуменні яна не з'яўлялася ані тым, ані тым — ні рускай, ні літоўскай.

Каб прыгатаваць старабеларускую мову, найперш трэба насыпаць у кацёл народныя гаворкі. Інгрэдыент гэты досыць складаны. Беларусь, насуперак стэрэатыпам, не самая малая краіна (па плошчы яе можна параўнаць, напрыклад, з пяццю Швейцарыямі, сямю Бельгіямі ці дзесяццю Славеніямі), так што разнастайнасці народных гаворак было (і ёсць) дзе разгарнуцца.

Спачатку старабеларуская мова фарміравалася на аснове гаворак полацка-смаленскага рэгіёна. Потым у падмурак сталі класціся сярэднебеларускія гаворкі, пасля — гаворкі віленскага рэгіёна. Рух з усходу на захад абумоўлены тым, што на працягу XVI стагоддзя вяліся разбуральныя войны з Маскоўскім княствам, пляцоўкай якіх былі беларускія землі.

Дарэчы, з гэтымі невясёлымі падзеямі звязаны выхад у Вялікім Княстве Літоўскім першай газеты, надрукаванай па-старабеларуску. 15 лютага 1563 года паў абложаны Полацк. Назва газеты тыпова барокавая — такая ледзьве ўклалася б у твіт: «Навіны грозные а жалостлівые о нападе княжаті Московского Івана на землю русску, которі то князь паленьнем, тыранством, мордованьнем мест, замков добываньнем веліку і знаменіту шкоду вчыняет. З доданьнем релацый Его Мілості Гетмана ВКЛ княжаті Радзівілла о поражцы места Полоцкого».

Змесціва, якое атрымалася з гэтага шэрагу гаворак, трэба добра вымешаць з царкоўнаславянскай мовай — штучнай мовай на аснове старaславянскай (старабалгарскай). Яе, у сваю чаргу, прыгатавалі Кірыл і Мяфодзій у IX стагоддзі. Царкоўнаславянская — гэта мова праваслаўнай літургіі, аналаг лаціны ў праваслаўных кніжнікаў.

Дарэчы, 33% лексікі ў Бібліі Францыска Скарыны — беларускія. Акадэмік Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі называе мову Скарыны царкоўнаславянскай мовай беларускай рэдакцыі.

У дадатак прыперчваем асновай асноў Рэнесансу — лацінскай мовай: **аливэс** (альяс), **армата** (гармата), **келюх** (келіх), **хундамент** (падмурак), **клебания** (каталіцкі прыход, парафія), **медитация** (роздум), **апсурдъ** (абсурд), **афектъ** (моцнае жаданне, жарсць), **венусъ** (каханне), **респектовати** (паважаць).

Запраўляем сумесь, якая ў нас атрымалася, польскай мовай ды ставім на агеньчык гісторыі. Ад заходніх суседзяў у нас такія словы, як **жадный** (ніякі, ніхто), **место** (горад), **мешкати** (жыць, знаходзіцца), **панство** (дзяржава), **сведетство** (сведчанне, паведамленне), **быдло** (свойская жывёла), **валька** (бой, бітва), **владза** (улада, сіла), **владца** (уладар), **державца** (ўладальнік, адміністратар), **поборца** (чалавек, які збірае падаткі), **выдерца** (асоба, якая забірае што-небудзь беззаконна, гвалтам), **бадати** (распытваць, дапытваць), **жакгель** (ветразь), **крайчый** (прыдворны, які на ўрачыстых абедах разразаў ежу, што падавалася вялікаму князю), **барзо** (вельмі), **дейца** (выканаўца, вытворца дзеяння), **свепетъ** (гняздо лясных пчол).

Дадаём некалькі лыжак цюркізмаў. З цюркскіх моў у кацялок трапілі такія словы, як **біклага**, **коберецъ** (ён жа **коверецъ**, ён жа **коворъ** – дыван ці дыванок), **кілім** (саматканы дыван), **чоботы** (боты), **амбар** (свіран), **папуці** (туфлі), **кешень** (кішэня).

Солім нямецкай: **буда** (шалаш), **крижъ** (крыж), **коштовати** (каштаваць), **кгвалтъ** (гвалт), **барберъ** (цырульнік), **маршалокъ** (павятовы кіраўнік дваранства), **гзымс** (карніз), **баволна** (бавоўна), **дяка** (падзяка, удзячнасць), **мештеръ** (магістр), **манъ** (чалавек, прадстаўнік улады), **ридель** (вершнік, рыцар), **скалва** (шалі), **вата** (вялікая сетка для лоўлі рыбы).

Дадаем крыху ідышу. Беларускія габрэі прынеслі такія словы, як **кагал** (шумнае зборышча), **талмуд, бахур** (малады габрэй), **шабас** (ён жа **шабатъ**), **хала** (здобны пірог).

У кацялку мовы перамешваюцца, смак аднаго складніка падкрэсліваецца альбо заціраецца іншымі. Некаторыя словы з нямецкай перайшлі ў старабеларускую праз пасрэдніцтва ідыша і польскай. З лаціны пярчынкі траплялі альбо наўпрост, альбо, зноў жа, праз польскую. Усё змяшалася, зварылася, і аддзяліць адно ад аднаго складана.

І вось у нас атрымалася ўежная страва для школ і канцылярый. Рэкамендуецца для ўжывання аўтарам, пісарам і перакладчыкам Вялікага Княства Літоўскага. Падаецца ў трох статутах ВКЛ, філасофскіх трактатах, дакументах, публіцыстыцы, мемуарах, рэлігійнай палеміцы, апокрыфах, летапісах, Метрыцы ВКЛ, перакладной літаратуры, у перакладах Евангелля і творах прыгожага пісьменства.

Але ў пэўны момант смачная страва знікла з пісьмовых сталоў. У 1696 годзе Генеральная канфедэрацыя саслоўяў забараніла выкарыстанне старабеларускай мовы ва ўсіх новых афіцыйных дакументах. Уся дакументацыя цяпер павінна была весціся толькі па-польску.

Апошняй друкаванай кнігай на старабеларускай мове стаў «Збор выпадкаў кароткі». Ён выйшаў у Супраслі ў 1722 годзе.

Больш на сталах старабеларуская мова не з'яўлялася…

# Такой і памятаю…



Алесь ЖУК

Пачалося наша знаёмства з Яўгеніяй Янішчыц з цёплага ранняга майскага вечара. Вядома ж, я бачыў яе здымак у газеце і чытаў тую першую публікацыю ў газеце, з якой паэтка яшчэ школьніцай не пырхнула, а ўляцела ў беларускую паэзію светла і чыста, святочна і таленавіта. Ды і часы былі і літаратуры, і культуры.

Потым яна стала студэнткай, мы мімаходам бачыліся ў інтэрнаце на былой Паркавай магістралі, прыгожай вуліцы з бульварам з ніцымі вербамі і каштанамі. Але па-сапраўднаму пазнаёміліся толькі ў той майскі вечар. Пачаўшы прагулку ад інтэрната, мы прайшлі па беразе Свіслачы ў Купалаўскі парк. Цвілі каштаны, было хараство маладой лістоты на дрэвах і па-сапраўднаму раскошны ранні вечар. Жэня была ў лёгкай белай сукеначцы, вясёлая і няўцішлая. Мы казалі аб усім запар. Нам было весела ад адвечнай радасці, якой захопліваецца чалавека вясна. Не зусім прыгажуня, яшчэ па-дзіцячы вуглаватая, Жэня свяцілася ўнутранай дабрынёй, энергіяй і адкрытасцю. Мы былі маладыя, упэўненыя толькі ў шчаслівым жыцці, якое толькі пачыналася, у тым ліку і ў літаратуры.

Маладосць заўсёды без аглядкі цешыцца і давярае жыццю.

*Будуць вёсны і пралескі,*
*Будзе радасць і туга,*
*Адцвіце вясна на ўзлеску,*
*Пабяжыць за сіні гай.*

*І хваёваю ігліцай*
*Адзвеніцца лета звон.*
*Толькі мне не паўтарыцца*
*Ні вясною, ні зімой.*

*Столькі думак самых шчырых!*
*Светлы шлях мне пажадай.*
*Заўтра будзе гулкі вырай*
*І бясхмарны небакрай.*

*Будзе лета з навальніцай*
*І вясёлка над ракой.*
*Толькі мне не паўтарыцца*
*Ані летам, ні зімой.*

І за гэтым «не паўтарыцца» ўся маладая самаўпэўненасць у сваёй вечнасці і бясконцасці.

Літаратурны лёс Яўгеніі Янішчыц складаўся роўна і паспяхова, можа нават здацца, што сам па сабе. Але трэба памятаць, колькі тых, хто прыйшоў у літаратуру на першым лёгкім дыханні, так і зачахлі ў самапаўторах аб пралесках, першай закаханасці і чаканні шчасця, аб харастве родных мясцін або ў апісанні на розныя лады народных танцаў пад чарку, вясёлых прыпеўках і найгранай шчаслівасці і ўдальства. Янішчыц, магчыма, інтуітыўна ідучы за патрэбай свайго таленту, не затрымалася ў гэтым першым лёгкім і прыемным перыядзе сваёй творчасці. І пачала з высокіх паэтычных нябёсаў набліжацца да рэальнасці, да зямлі. Гэта таксама небяспечна — аб зямлю можна разбіцца, калі будзе страчана пачуццё меры. Але яшчэ страшней і згубней зусім страціць з ёй сувязь. І не толькі прырода, яе прыгажосць, непаўторнасць сваіх маладых перажыванняў пачынаюць вабіць. У паэзію Яўгеніі Янішчыц пачынае ўваходзіць жыццё простага чалавека, складанасць і неадназначнасць чалавечага жыцця, у якім не абыходзіцца без трагедый.



Яўгенія Янішчыц

Ужо другая кніга вершаў «Ясельда» пазначыла новыя клопаты паэтэсы. Яе вабяць лёсы сваіх землякоў, трывожаць лёсы чалавека на гэтай грэшнай зямлі, такіх характэрных людзей, як зямляк Раман Скірмунт з усёй значнасцю і трагедыйнасцю лёсу, і памяць апошняй вайны, і скалечаныя чалавечыя лёсы.

*Ёсць мудрае, адзінае жаданне*
*Дарэшты зразумець, чаму з вякоў*
*Нам раніць сэрца скурнае вяртанне,*
*І скурнае шчаслівае спатканне*
*Не ўмясціць у рамкі гучных слоў.*

Ды і назвы вершаў сведчаць пра далейшыя арыенціры творчасці: «Балада вернасці», «Айцоўская дарога», «Абеліскі» з прысвячэннем Васілю Быкаву. Пішацца паэма «Ягадны хутар». Для паэмы мала толькі лірычнае пачуццё, яна мяркуе і эпічнасць. На вопыце жыцця народа паэтка пачынае вывяраць свой далейшы паэтычны шлях. Яўгенія Янішчыц звяртаецца да маці:

*Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён,*
*І цярплівасці вечнай —*
*у голас не плакаць.*
*Апынуся калі сярод чорных варон, —*
*Я памру, ды не буду па іхняму каркаць.*

*Мама, сею не жыта я, сею не лён,*
*Але з жыта і лёну я словы складаю.*
*І калі ўглядаюся ў парасткі дзён —*
*Чую крокі твае. І свае вывяраю.*

Паэтэса, вядома ж, не забылася пісаць уласцівую толькі ёй лірыку чалавечых пачуццяў, натуральнае жаданне шчасця і радасці ў штодзённым чалавечым жыцці ў гармоніі з вечнай прыгажосцю прыроды, якую адчувала тонка і пісаць пра якую ўмела.

*Цяплейшых промняў сонечныя стужкі*
*Ужо ў стажкі прыбрала сенажаць.*
*Вось сумна парассыпаліся птушкі,*
*І ўсе яны нанова празвіняць.*
*…*
*Як зірні: бярозы свечкамі*
*Нязменлівым светам —*
*Над перакатнай рэчкаю,*
*Над ціхім азярцом.*

Надыходзіць час паэтычнай сталасці, абвастраецца пачуццё адказнасці за напісанае. Вось яе аўтографы на кнігах мне, якія сведчаць пра сталенне, калі можна так сказаць, паэтэсы: «Алесь, хай не мялеюць родныя берагі!» — лёгка, нібы мімаходам. «Алесь, хай застаюцца кладкі сяброўства, а ўсё астатняе — ліха на яго! Хай тварыцца!!!» — крыху разважліва і нават сцвярджальна. І назва кнігі — «Пара любові і жалю».

Кніга адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР. Яўгенія Янішчыц удзельнічае ў рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Але няўдала складваецца асабістае жыццё. Паэтка адна гадуе сына, увесь час шмат піша, нават апантана. Часам тэлефанавала мне: «Прыходзь, я хачу прачытаць табе новыя вершы». Чытала вершы яна, уладкаваўшыся з нагамі на канапе. Брала са стоса лісток і пасля прачытання адпускала яго з рукі на дыван. І пакрысе дыван высцілаўся белымі ліосткамі. Я глядзеў на яе і думаў, што яна цяпер не ў гэтым вялікім трохі змрочным пакоі, а дзесьці далёка і высока, у толькі ёй даступным свеце паэзіі, і не проста вымаўляе словы, а дыхае імі. Думалася, што такому апантанаму чалавеку цяжка вяртацца з тых вышынь у штодзённасць жыцця. Як гэта цяжка — спалучыць смагу творчасці і смагу простага чалавечага шчасця, і ці магчыма такое. А шчасця хацелася, і можа таму ў яе з адчаем вырывалася: «Чаму мяне ніхто не любіць?» І на вочы набягалі слёзы. І тады было ўсё няміла. Але яна ўмела гасіць прылюдна прарванае пачуццё, рукой нібы змахвала яго з твару, хавала за цыгарэтным дымком заплаканыя вочы і спрабавала ўсміхнуцца. Што зробіш, калі неба з табой дзеліцца сакрэтамі і сам Блок чытае табе свае вершы?



Помнік на магіле Яўгеніі Янішчыц

*Падсінена гара аблок*
*Весёлай песняй крыгалому.*
*Мне чытае вершы Блок,*
*Забыўшыся на гадзіну і стому.*

*Трывожыць сэрца мне штодня*
*Усмешка, спеў ягоны, гора,*
*І ноч бяссонных глыбіня,*
*І за спіной каменны горад.*

*Праз Баблова, як скончыць ён,*
*Дарогі вытчацца аснова,*
*Дзе зліты ў вечны перазвон*
*Час і Душа, Душа і Словы.*

Як асэнсаваць чалавека ў часе і прасторы з усім шчасцем і трагізмам сціпласці чалавечага жыцця ў параўнанні з вечнасцю? Паэт не можа не імкнуцца ў космас чалавека, як і чалавецтва не можа не імкнуцца спасцігнуць зорны Космас. Чаго б гэтае імкненне не каштавала.

*Вось так узгараецца слова:*
*Паблізу. Сардэчна. Здаля.*
*Мы будзем з табою часова —*
*Праменьчык,*
*Іскрынка,*
*Ралля.*

*Спяшаемся часта дарэмна.*
*Марудзім на пошасць і зло.*
*Мы будзем з табою ўзаемна —*
*Каліна,*
*Слязіна,*
*Святло.*

*Глядзі, як заранка трапеча*
*Над шапкай зялёнай галля!*
*Мы будзем з табою навечна —*
*Карэньчык,*
*Каменьчык,*
*Зямля.*

Такім вось знакавым вершам заканчваецца томік выбранага Яўгеніі Янішчыц, які яшчэ прыжыццёва падсумаваў зробленае ў паэзіі за дваццаць пяць гадоў. Гэта было падсумаванне зробленага, а не самога жыцця. У тую глухую пару лістапада, кажучы словамі Барыса Пастэрнака, калі ў небе апошніх гусей касякі, Жэня ў канцы дня забегла да мяне ў кабінет у Доме літаратара. У добрым настроі, уся імклівая, вясёлая. Пажартавала, што заграз у чыноўніцкай працы. Папярэдзіла, што на днях запросіць да сябе, што ў кампаніі сяброў адзначым і яе мінулы саракавы дзень нараджэння, і паглядзім яе новую кватэру на восьмым паверсе ў элітным доме, з якой цудоўны від на Свіслач. Ды імкліва, узвіхурана знікла з кабінета.

І ў кашмарным сне мне не магло прыбачыцца, што праз пару дзён у тым жа кабінеце пад прыспешвальныя званкі з ЦК буду пісаць некралог па ёй, па Жэні, па Яўгеніі Янішчыц.

*Запамятай такою, як была,*
*Здзірала як нясцерпныя кляйноты.*
*Смяюцца вочы, поўныя святла.*
*А на губах — гарчавінка самоты.*

Але праз гады яна ўспамінаецца мне перш за ўсё з белымі аркушыкамі вершаў, і тое, як лёгка яны злятаюць у яе з рукі. У жыцці. У вечнасць. А сама яна ўжо недасягальна высока і далёка. І мне, зямному чалавеку, балюча і будзе балець ад таго, што яна там, а не тут, на гэтай грэшнай і любімай зямлі.

# Васіль БЫКАЎ: «Я быў “ідэалагічным дыверсантам”»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра жыццё пад савецкімі спецслужбамі, ідэалагічны ўціск, магчымасць эміграцыі і расійскую дэмакратыю.**

***Юрась ЗАЛОСКА: — Раней Вы распавялі пра жахлівую «кадэбізацыю» савецкага грамадства, абумоўленую ёй праблематычнасць дэмакратызацыі. Няцяжка дапусціць, што не былі абыйдзены ўвагай «органаў» і Вы, пісьменнік з немалым маральным аўтарытэтам у грамадстве. Ці спазналі Вы, Васіль Уладзіміравіч, спробы КДБ «залучыць» Вас?***

Васіль БЫКАЎ: — Вядома ж, спазнаў. Уся справа ў тым, што я жыў у Гродне. Усё-такі Гродна — невялікі горад, у параўнанні з Мінскам, і там усе адзін аднаго ведалі, я бачыў, як гэта рабілася…

Канечне ж, спробы паўздзейнічаць на мяне былі, прычым — увесь час. Мяне туды выклікалі, каля мяне хадзілі падпалкоўнікі з КДБ, са мной вялі «работу». Раз-пораз выклікалі сюды, у Мінск, на «прафілактыку», і я прыязджаў… Толькі пасля зразумеў, што ездзіў на тую «прафілактыку» за свае грошы!.. (*Самаіранічна смяецца*). Да мяне званіў падпалкоўнік з КДБ і пытаўся: «Васіль Уладзіміравіч, вы не збіраецеся ў Мінск?» — «Не, не збіраюся». — «Але скора пленум Саюза пісьменнікаў, вы ж паедзеце, мабыць?» — «На пленум паеду». — «Дык вы, калі ласка, вялікая просьба, зайдзіце ў КДБ, там генерал Р. вельмі просіць зайсці».

І вось я прыехаў, прыйшоў у КДБ, праз парадны… Генерал Р. меў са мной гутарку. Тая гутарка была даволі «змястоўная», як цяпер разумею (*іранічна ўсміхаецца*), але ўвогуле, калі яе асэнсаваць, дык гэта была звычайная «прафілактыка». Канечне ж, не ў мэтах вярбоўкі, а для таго, каб паўплываць на мяне і маю творчасць. Там былі і пагрозы. Вельмі страшныя пагрозы…

***— Напрыклад?***

— Напрыклад, той генерал Р. расказаў, як у часе вайны дзесь на Палессі расправіліся з адным начальнікам паліцыі па прозвішчы Быкаў… Гэта было маляўніча расказана, як ён умазаў таму з маўзера, і ў таго — мазгі па сцяне… Я думаў: ну добра, дапусцім, такі выпадак быў, але — навошта было паведамляць, што яго прозвішча Быкаў?

***— Гэта была псіхалагічная апрацоўка?***

— Амаль усе выпускнікі ўніверсітэтаў і ВНУ праз гэтае сіта праходзілі, і з усіх бралі падпіску аб супрацоўніцтве. Дзяліцца гэтым з іншымі было непрыстойна. На тым і будавалася ўся сістэма. Тыя, хто даваў падпіску, не значыць, што яны даносілі. Але яны знаходзіліся ў рэзерве і ў кожны момант маглі зрабіць тое, што было трэба КДБ.

***— Наколькі ў такім разуменні савецкай рэчаіснасці, стану рэчаў у грамадстве Вам дапамагло знаёмства з жыццём Еўропы, паездкі за мяжу?***

— Я ездзіў за мяжу на розныя пісьменніцкія мерапрыемствы, у асноўным гэта былі краіны былога сацлагеру, г.зв. СЭУ. Канечне, што-ніштo зразумеў. Напрыклад, зразумеў, што пасля перамогі ў 1945 годзе мы прынеслі краінам Усходняй і Цэнтральнай Еўропы новае заняволенне. Я памятаю Балгарыю адразу пасля вайны, я там служыў год у Сафіі. Традыцыйна балгары ставіліся да рускіх вельмі прыязна, хоць Балгарыя і не была на баку антыгітлераўскай кааліцыі, наадварот… Затым я зноў прыехаў у Балгарыю праз дваццаць гадоў, у 1965-ым, і што пачуў? Пачуў такі анекдот: «Дзед Тодар працуе ў сваім вінаградніку. Прыбеглі дзеці. Кажуць: «Дзядуля Тодар, дзядуля Тодар, рускія на Месяц паляцелі!». Той устае і кажа: «Што — усе?! Слава табе, Госпадзі!»».

***— А кантактаванне з заходнімі інтэлектуаламі, пісьменнікамі як уплывала на Ваш палітычны і мастакоўскі светапогляд?***

— На жаль, кантакты з-за моўнага бар’ера былі невялікія, я не ведаў заходніх моваў, а заходнія інтэлектуалы не ведалі нашай. Але, прынамсі, я бачыў, як выступаў Генрых Бёль у Кёльне, уся плошча была запоўнена людзьмі. Гэта быў сапраўдны нацыянальны апостал… І гаварыў ён хораша, я памятаю, пра ядзернае процістаянне ў свеце…

З нямецкім пісьменнікам Фрыдрыхам Кіпхардам у 1980 годзе мы нават збіраліся напісаць разам агульную кнігу…

***— ?***

— Мы з ім ваявалі на адным фронце, стаялі ці не на адным участку, і маглі бачыць адзін аднаго ў бінокль. Я з ім сустрэўся ў Балгарыі, і мы дамовіліся напісаць пра тое агульную кнігу — дакументальную. Я — з гэтага боку, а ён — з таго. Балгарскі Саюз пісьменнікаў узяўся апекавацца той справай, прадаставіў жыллё ў Доме творчасці, каб мы працавалі… На жаль, Кіпхард раптоўна памёр…

***— Вашыя прыхільнасці ў нямецкай літаратуры, апроч Бёля?***

— Бёль — гэта безумоўна. Дарэчы, Бёль таксама ваяваў на тым жа фронце, але сімуляваў хваробу, і яго адправілі ў тыл… Уся справа ў тым, што ў нас пераважна друкаваліся пісьменнікі ГДР, а яны мне не надта падабаліся. Але што-ніштo выдавалася і з заходніх рэчаў. Пасля трэба сказаць, што ў часе паездак ніякіх сувязей у сэнсе друкавання ніколі не завязвалася, таму што заходнія выдаўцы і інтэлектуалы, асабліва ў Заходняй Германіі, да нас, савецкіх пісьменнікаў, ставіліся досыць нядбайна, можна сказаць, ніякай цікавасці да нас не праяўлялі і ні на якія кантакты з намі не ішлі. І гэта ўвогуле зразумела. Я пасля зразумеў, чаму…

***— Чаму?***

— Таму што яны не прымалі нашай савецкасці і, можа быць, нашай расейскасці. Што датычыць Беларусі, то яе ў Еўропе не ведалі.



Калаж Марыі Талстовай

***— А Ваша стаўленне да Томаса Мана?***

— Я чытаў і Стэфана Цвэйга, і Манаў, але, відаць, не ў той час я ўсё гэта чытаў: мне трэба было чытаць гэта пазней, і чытаць інакш, чым чыталася ў маладосці. Тады яны не зрабілі на мяне вялікага ўражання.

***— А Рэмарк?***

— Рэмарк — само сабой. Пасля — Барбюс, Андрэ Жыд… У тыя гады, калі заходнія інтэлектуалы гарнуліся да Савецкага Саюза, прыязджалі сюды, пісалі кнігі, ухвалялі Сталіна і сацыялізм, Андрэ Жыд таксама быў запрошаны, здаецца, на юбілей Горкага. А потым напісаў антысавецкую і антысталінскую кнігу. Што значыць сумленны, разумны чалавек! Ён убачыў не тое, што ісландскі мастак Ракуэл Кэнт, каторы ў захапленні быў ад нашых парадкаў і пакінуў адпаведныя сведчанні: «В Советском Союзе журналистика очень высоко оплачивается… Я сказал несколько слов по радио, и наутро дама привезла мне в гостиницу целый пакет денег…». Гэтак жа да СССР ставіўся Бідструп. Іх тут лёгка ачмурылі…

І ў той жа час быў Джон Стэйнбек, каторы прыязджаў у 60-я гады (калі ў нас пачаўся разгром «Юности», пачалі цкаваць Еўтушэнку з Вазнясенскім). Я нават выпісаў тады ягоныя словы (*цытуе, лёгка адшукаўшы адпаведную старонку ў нататніку на стале, —* ***Ю.З.***): «По-моему, молодые люди, да и люди любого возраста, если они никогда не гневаются, живут зря. Для меня гнев — символ мысли и независимой оценки и противодействия. Мне надоели незлобливые люди; я считаю, что гнев — самая здоровая эмоция на свете». Далей ён піша: «У нас в США мало уважают художника, и это хорошо. Писатель в Америке сто́ит несколько ниже клоуна и несколько выше дрессированного тюленя. Для писателя это очень полезно».

***— Мабыць, у жыцці гэта не так і лёгка — гнявацца. Вам часта гэта даводзілася рабіць, Васіль Уладзіміравіч?***

— Чаму ж не? У нас гэтага хапала, гэта, можа быць, для Амерыкі новая думка, а ў нас жа эмоцыі — дагэтуль…

Пасля яшчэ што важна: многае мы перажылі ўдвох з Карпюком. Трэцім у нашай кампаніі быў Барыс Клейн, дацэнт з медінстытута… Гэта было проста сяброўства. Прытым Карпюк быў па-грамадзянску ангажаваны чалавек. Гэта скончылася тым, што яго ўрэшце выключылі з партыі (за вайну) і ў дадатак навесілі сем артыкулаў Крымінальнага кодэкса. Клейна выключаюць з партыі, пазбаўляюць кандыдацкага дыплома… Ён пайшоў працаваць на гародніную базу памочнікам бухгалтара… А пасля ўзяліся за мяне, пачалі цягаць… Я зразумеў, што хутка павінны былі вынесці нейкае канчатковае рашэнне (як пасля даведаўся, ім трэба было зрабіць з мяне «беларускага Салжаніцына» і выкінуць за мяжу). З партыі мяне нельга было выключыць — я быў беспартыйны; з работы таксама не знімеш — я нідзе не працаваў, быў літкансультантам рэдакцыі абласной газеты. Маглі, канечне, пераехаць аўтамабілем дзе-небудзь… Як потым стала вядома ад людзей, больш дасведчаных па лініі КДБ, яны мне рыхтавалі высылку. Але пасля ўсё перавярнулася — як у Маскве мне далі Дзяржаўную прэмію *(1974 г. –* ***Рэд.****)*. Тады я ўбачыў, што нешта ў іх забуксавала, пачаўся ход назад… Тады ў мяне справы пайшлі на лад, трэціраваць перасталі… Мне, безумоўна, дапамагла расійская дэмакратыя, дэмакратычная частка расійскай літаратурнай грамадскасці. Можа, калі напішу, дасць Бог, таму што ўсё гэта — сюжэт пэўнай драмы. ДРАМЫ ПРА МІНУЛАЕ.

***— А хто Вам пра «лёс Салжаніцына» сказаў?***

— Неяк, ужо ў наш час, публічна сказаў аб гэтым Барыс Сачанка…

***— Як паставіліся тады, пры канцы 1960-х — у пачатку 70-х да сітуацыі вакол Вас беларускія пісьменнікі?***

— Супраць першых выпадаў у мой адрас выступілі 62 беларускія пісьменнікі, найперш мае сябры — Вярцінскі, Бураўкін… Яны напісалі ліст у маю абарону ў ЦК КПСС. Ён, натуральна, не друкаваўся, але яны здолелі сабраць 62 подпісы. Пасля, вядома, ім дасталося, быў адпаведны працяг, але такая акцыя была… Тады, калі я жыў на Гродзеншчыне, якое б ні праводзілася «мерапрыемства» — гаспартактывы, пленумы абкама, гаркама, райкамаў і г.д., — усе яны зварочваліся на Быкава. Пакідаліся ўбаку жывёлагадоўля і выкананне планаў… Праводзілі паралелі, я быў «ідэалагічным дыверсантам». І гэта ж прадаўжалася не адзін год, гэта цягнулася недзе з 1966-га па 1974 год. Выратоўчым плыцікам быў «Новый мир». Яго рэдактар Аляксандр Твардоўскі пасля першай публікацыі сказаў мне, што ён будзе друкаваць усё, што я ні напішу, у любым жанры. У той час гэта было неверагодна, бо калі нейкі твор тады падпадаў пад партыйную крытыку, то перад аўтарам закрывалася дарога да чытача — найперш у тым выданні, каторае яго надрукавала. Твардоўскі ж і рэдкалегія «Нового мира», наадварот, мяне падтрымалі. Памятаю, мяне моцна пабілі ў «Правде» за «Мёртвым не баліць»… Напісаў наступны твор — там жа надрукаваў, — пабілі яшчэ мацней… Напісаў «Круглянскі мост» — яшчэ мацней узяліся… Уключаліся ўсе выданні — і ў Маскве, і ў рэспубліках, абласцях, раёнах, — пісалі партызаны, героі і г.д., даваліся цэлыя развароты. Тры рэчы былі аддадзены самаму жахліваму астракізму: «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост» і «Праклятая вышыня». З «Сотнікавым» намеціўся нейкі паварот (к таму часу яны прыбралі з «Новага мира» Твардоўскага і расшарсцілі ўсю рэдкалегію). Твардоўскі яшчэ яго падрыхтаваў, прачытаў, але нумар падпісаў ужо новы рэдактар…

***— Ці ўзнікалі ў Вас у той час думкі пра эміграцыю?***

— Ды не. Па-першае, я быў да таго не гатовы, і не думаў пра тое. Мне, прынамсі, пра гэта ніхто не намякаў. Намякалі, наадварот, на фізічную расправу. І такое было, калі нападалі на вуліцах, — крымінальнікі…

***— Хто?***

— Неяк вечарам мы з Клейнам ішлі па вуліцы, я яго праводзіў. Ля пад’езда яго дома — у цэнтры горада — трохі затрымаліся, заканчваючы размову. І тут на нас наляцелі трое здаровых дзецюкоў. Пачалі біць. Разбілі акуляры і г.д… Прычым — моўчкі. Мы крычым: «У чым справа, за што!?». А тыя маўчаць. Потым раптам усе адсыпаліся, адзін паварочваецца і кажа: «Простите, ребята». Усё адразу стала зразумела… У міліцыю, параіўшыся, мы не пайшлі, бо адно толькі згубілі б ноч, пішучы тлумачэнні…

***— Якія адносіны з расійскай дэмакратычнай грамадскасцю ў Вас захоўваюцца цяпер; увогуле, што Вы думаеце наконт сучасных падзей у Расіі?***

— Тут я скажу вот што. Некалі, на пачатку дэмакратычных пераўтварэнняў у Расіі, у Маскве, я дужа спадзяваўся на расійскіх дэмакратаў.

Мы пабачылі, як перарадзілася ў сваёй масе расійская дэмакратыя. Нават лепшыя з іх сталі дзяржаўнікамі, апраўдалі разгром Чачні. Намінальна дэмакратычны ўрад Ельцына, што мяне моцна здзівіла, паяднаўся з тымі ж таджыцкімі камуністамі, каторыя пры ўладзе, пачаў іх падтрымліваць — супраць дэмакратычных нацыяналаў, каторых выгналі ў эміграцыю. Цяпер — у адносінах да Украіны гэтыя «дэмакраты» павялі сябе не лепшым чынам. І адносна Беларусі, хоць пра Беларусь пакуль што асабліва не выказваліся… Я скажу, што гэта дзівосная, гібрыдная рэч — расійская дэмакратыя; гэта не тая дэмакратыя, за каторую мы яе прымалі і на каторую хацелі спадзявацца. Гэта вельмі і вельмі сумна, таму што лёс Беларусі, што б там ні казалі, моцна звязаны з лёсам Расіі. Як мацнейшая суседка, яна вызначае шмат што з нашага ўнутранага жыцця. Тое, што ў нас робіцца, — толькі адбітак тых працэсаў, якія адбываюцца ў Расіі. Благіх ці добрых.

У Маскве вунь зноў распачынаецца палітыка антыамерыканізму, канфрантацыі з Захадам. І гэта натуральна, таму што гэтыя людзі могуць існаваць толькі ў стане канфрантацыі з усім светам. Няважна, як яны сябе называюць, дэмакратамі ці камуністамі… І рана ці позна яны да гэтага вернуцца. Гэтая эканоміка, што шмат гадоў спецыялізавалася на вытворчасці зброі і ракет, іх да таго змусіць… Яны не могуць існаваць у стане міру. Іх звыклы стан — жорсткая барацьба, «осажденная крепость». А для таго патрэбен вораг. Гэта, перш за ўсё, — Амерыка. І акажацца, што самы нацыянальны палітык у Расіі — Жырыноўскі, а самы лепшы імператар — нярускі, Джугашвілі ці невядома якой крыві Ленін, ці хто яшчэ…

***— На Вашу думку, вызначаць будзе палітыка, а не культура, расійская ці то беларуская?***

— Вот іменна. І вызначаць будзе Лубянка, а не Белы Дом. Лубянка заўсёды вызначыць. Гэта ж зразумела. І тое Лукашэнка зразумеў, чаму ён пераможа Кебіча яшчэ на тых вырабах: Кебіча рыхтавалі Ельцын з Чарнамырдзіным, а Лукашэнку — іншая ўстанова. Заўсёды Лубянка перамагала, як бы яна ні называлася. Нават калі гэта быў запасны варыянт.

***1995 г.***

# Цалавацца больш нельга…

## Мініяцюра



Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Цалавацца больш нельга.

Пандэмія паламала звыклыя стасункі блізкіх, знаёмых і незнаёмых. Цалавацца нельга катэгарычна ўсім, усюды і заўсёды. Цалавацца нельга зранку, у абед, увечары і нават ноччу. Цалавацца нельга ў машыне, на вуліцы і нават пад коўдрай.

Цалавацца нельга з жонкамі, каханкамі, выпадковымі спадарожніцамі, добрымі знаёмымі сяброўкамі і загадкавымі спакушальнымі незнаёмкамі. Уяўляеце сабе блізкасць у намордніках і гумовых пальчатках?! Уявілі? Цяпер выразна стала зразумела, чаму цалавацца больш нельга.

Цалавацца больш нельга.

Нельга таму, што на гэта няма часу. Ніякія справы не закончаны, ніякія намеры і задумы не рэалізаваныя, часу ні на што няма. Трэба спяшацца дабіць хвасты, абсекчы канцы, аддаць даніну, разлічыцца з даўгамі, закрыць пытанні, урэшце скласці новыя, такія ж сама нерэальныя планы. І так бясконца. Пакуль дыхаеш, спадзяешся на вынік, на поспех, на нешта лепшае, якое ніяк не прыходзіць. Сядзі, ідзі, бяжы, рві з усіх сілаў — а яно ўсё не прыходзіць. Вавёрка бегае па коле, таму што яна дурная, чалавек адрозніваецца ад вавёркі толькі тым, што ён не бачыць гэтага кола. На пацалункі няма часу, як на аўтографы пасля прайгранага матчу, як на непатрэбны ўступ ці лішнюю канцоўку.

Цалавацца больш нельга.

Гэта могуць расцаніць як брутальнае дамаганне. Гэта раней трэба было адразу браць быка за рогі, а дзеўку за ногі. Цяпер, калі так возьмеш быка, наляцяць зоаабаронцы, зялёныя і рознамасцевыя паглынальнікі раслінаў. Час карыды незваротна мінуў. Калі ж так вольна паставішся да прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва, нападуць феміністкі, суфражысткі, вуманісткі. А калі наважышся пацалаваць дзеўчыну іншага колеру скуры, зацята заклеймяць антырасісты, антыфа і розныя іншыя фі- і фэ-. І тут будзе не да цалавання. Тады ў голаў лезуць іншыя пытанні, прыкладам:

— Ці маюць права белыя людзі на белую скуру, тым больш на непапсаваную тату? Ці ёсць душа ў целе феміністкі?

Цалавацца больш нельга.

Маладыя дзеўкі ўжо не хочуць цалавацца са старэйшымі ў два разы мужчынамі. Можа, так вырасла мараль? Зрэшты, яны не хочуць цалавацца і з равеснікамі. Навошта ім цалавацца, ім цікавей розныя ціктокі і сэлфі. Інстаграм замяняе сто грам, фэйсбук — рэальныя твары, сэлфі-палка — партнёра. Цалавацца становіцца нечым лішнім, неістотным, празмерным і зусім непатрэбным. Ды і цалавацца проста так, без кахання, гэта занадта інтымна.

Цалавацца больш нельга.

Нават калі і можна, то пасля ўсяго пералічанага зусім не хочацца. А пасля пяцідзесяці гадоў аптэкарскія рэцэпты ўжо перавышаюць выдаткамі рэстаранныя рахункі. Той самы век, калі ўжо занадта стары для рок-н-ролу, але занадта малады, каб паміраць. Той час, калі пара́ пераходзіць на трэнерскую працу, але не можаш сабраць каманду здольных гульцоў. Той час, калі карціць раздаваць парады, а не кампліменты. І нават калі ёсць з кім, ёсць дзе, ёсць чым, міжволі паўстае пытанне — а навошта? Гэта раней можна было казаць — «пасля сустрэчы з ёй ужо непатрэбна фізкультура», цяпер жа — так цяжка зразумець — ці гэта ты рыпеў, ці ложак.

Цалавацца больш нельга…



Фота Ігара Смоліка

# Трэба піса́ць

## Фельетон



Віктар САЗОНАЎ

Ну вось і дачакаўся! Цяпер я, у дадатак да ўсіх маіх шматлікіх непрыемнасцяў і праблем, што навалiліся на мой і так не самы зайздросны лёс, афіцыйна стаў яшчэ і «дармаедам». Гэтага мне толькі не хапала!

Гэта ў Беларусі ёсць такі сацыяльны статус — дармаед. Пра гэта ўвесь свет ведае і здзіўляецца. Праўда, яго з уладных вуснаў часцей вымаўляюць па-расейску: «тунеядец», але сутнасці тое не мяняе. Усе негатыўныя наступствы дармаедскага ярлыка, калі ў канцы года не зможаш даказаць, што ты не «вярблюд», пачынаюць працаваць незалежна ад таго, назвалі цябе па-чужынску «тунеядцем» ці ўсё ж паважліва і неяк цёпла, па-роднаму — «дармаедам».

А яшчэ ж зранку першага кастрычніка я, па афіцыйных дадзеных, быў чалавекам хоць і не самым вітальным для дзяржаўных чыноў, але дастаткова сацыяльна важкім ды абараняўся законам сваёй краіны ад усялякай там дармаедскай знявагі з боку каго б там ні было, у тым ліку і праўладных прадстаўнікоў роднай дзяржавы. Бо з ахвотай ці не, а ўсё ж прызнаваўся гэтай дзяржавай не нейкім там закаранелым лайдаком, а нармальным беларускім пісьменнікам. Не абласканым дзяржавай, не ўлюбёным ва ўладных кабінетах і нават, мякка кажучы, не зусім жаданым. Але ўсё ж пісьменнікам.

І вось у 18 гадзін 13 хвілін першага дня месяца кастрычніка 2021 года Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь па позве Міністэрства юстыцыі ліквідаваў сваім рашэннем Саюз беларускіх пісьменнікаў, у які я меў гонар уваходзіць з 11.03.2009 года, калі верыць пісьменніцкаму пасведчанню № 613, выпісанаму на маё імя і ўручанаму ў цёплай сяброўскай атмасферы ў старадаўняй Гародні, — у тыя слаўныя часы, якія сёння многія называюць «адносна вегетарыянскімі».

Так-так, гэта тая самая арганізацыя, якую ўганаравалі сваім сяброўствам вялікія класікі сусветнай літаратуры і якую зараз ліквідаваў Вярхоўны Суд…

А класна гучыць, праўда: Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь ліквідаваў Саюз беларускіх пісьменнікаў усё той жа Рэспублікі Беларусь. А ў мяне нават узнікла дзіўная і крыху насцярожваючая аналогія: у якую б арганізацыю я не ўступіў, яе рана ці позна ліквідуюць. Што за жах такі? Можа, са мной штосьці не так?! Не разумею.

Я ў сваім жыцці, як і ўсе актыўныя і неабыякавыя людзі, уваходзіў у многа грамадскіх арганізацый. У большасць з іх увайшоў у ранняй маладосці, пачынаючы са знакамітага гістарычнага гарадзенскага клубу «Паходня». Затым БНФ за перабудову «Адраджэнне». А затым грамадскае жыццё ў Беларусі завіравала напоўніцу, і грамадскіх структур, дзе хацелася прыкласці свае здольнасці і магчымасці, станавілася ўсё больш і больш. І Беларуская асацыяцыя журналістаў, і «Фонд імя Сапегі», і Згуртаванне братоў Каліноўскіх, і Праваабарончы цэнтр «Вясна»… І вы ведаеце, што большасць з іх цяпер аказаліся зачыненымі?! Я іх усе пераажыў! Хто б мог падумаць?!

Як праклён які!

Ну а сёння каб і хацеў які малады ці стары чалавек увайсці ў якую легальна зарэгістраваную грамадскую недзяржаўную арганізацыю, дык і не ўвойдзе — з прычыны адсутнасці такіх структур.

Першая арганізацыя з маім сяброўствам, якую зачынілі, быў Праваабарончы цэнтр «Вясна». Ну а апошняя — Саюз беларускіх пісьменнікаў. Так што цяпер я афіцыйна «беспартыйны» ва ўсіх сэнсах. Фінал і кульмінацыя! Быў незарэгістраваным праваабаронцам, ну а цяпер яшчэ і пісака без прыналежнасці да творчай арганізацыі. Як Максім Багдановіч…

Зрэшты, вось гэта не самае горшае. Проста хацелася б і ў іншых аспектах творчасці быць падобным да Максіма Адамавіча. Ці хаця б крыху наблізіцца да яго генія. І вось тут цікавая выснова: для гэтага, аказваецца, не абавязкова быць сябрам хоць якой зарэгістраванай Мінюстам творчай ці не творчай арганізацыі. Для гэтага трэба зусім іншае.

Так што закрыццё арганізацый ёсць не самай трагічнай з'явай, якая звалілася на маю галаву апошнім часам, ды і на галовы іншых таксама. І, напэўна, з часам адродзяцца зноў многія структуры. Хоць не гэта галоўнае. Бо пісьменнікам проста трэба пісаць. А пра што пісаць — ёсць пра што. Жыццё цяпер такое, што тэмаў на сто пісьменніцкіх арганізацый хопіць. І зарэгістраваных, і пазбаўленых той рэгістрацыі.

# Палёт Херувімаў



Анатоль БРУСЕВІЧ

### З раздзела «Пад сцягам Мадагаскара»

### Курапаты (акратэлеверш)

*Вясны крывавы залп,*
*енк ветру, боль, сляза,*
*час знік — яму няўцям,*
*навошта плач. Жыцця*
*абсяг спыніў свінец,*
*якому век звінець.*

### Памяці Юры Гуменюка

*Ты хацеў, як заўжды, шыкоўны,*
*Незабыўны стварыць эфект.*
*Атрымалася — ў іншы свет*
*Не пайшоў — адляцеў з балкона.*

*Ды і што тут лавіць было*
*У смуродным і шэрым краі,*
*Дзе ніхто ні аб кім не дбае,*
*Бо навокал адно хамло?!*

*Ты застаўся самім сабой —*
*Неспакойным, вольным паэтам,*
*І таму да апошняй мэты*
*Не схацеў ісці пехатой...*

***

*Чырванню перакрэслю*
*Белы колер бяздоння.*
*Весела. Можа, павесіцца?*
*Можа, ўтапіцца ў Нёмане?*

*Ці проста ўзяць ды лопнуць*
*Ад недарэчнай мары*
*Тут, у цэнтры Еўропы,*
*Пад сцягам Мадагаскара?*

### З раздзела «Верныя вершы»

***

*Запытай у мяне, ці хачу я*
*Жыць не так, як жыву цяпер?*
*Запытай. Толькі я не пачую,*
*Бо глухі, нібы псіхдыспансер.*
*Маё цела — каменныя сцены.*
*Маё сэрца не адгукнецца.*
*Я — выгнаннік з уласнай душы.*
*Я — ахвяра маўклівай ілжы.*
*Я наскрозь недаверам прарос,*
*І жыццё не ўспрымаю ўсур'ёз.*
*Ні пра што не пытайся ў паэта —*
*Хай жыве так,*
*як жыў ён дагэтуль.*

### Эдзіку Мазько

### I. (Прывітальны акратэлеверш)

*Эдэм засох. За брамай райскай храм*
*Даўно стаіць пусты — без алтара.*
*Убогі люд глядзіць на ўсё без слёз,*
*А побач ты, пранізаны наскрозь*
*Руцінай тых, што рвуць з цябе вянок,*
*Добразычліва ім ліеш віно.*

### II. (Развітальны верш)

*Так шмат дарог вядзе да Пана Бога,*
*А ты абраў кароткі самы шлях —*
*Пайшоў наўпрост —*
*па вострых камянях,*
*Не баючыся да крыві параніць ногі.*



Фота pinterest.com

*Ну што ж, бывай, цяпер ты не адзін.*
*Ты нас пакінуў цешыцца самотай,*
*Лічыць гады ад слоты да спякоты,*
*Сачыць, як з дрэваў сыплецца бурштын,*
*Глядзець, як падрастаюць нашы дзеткі,*
*Як вершы спяць у пераплётах кніг,*
*Як адыходзіць з марамі цягнік*
*У светлы край жывых і штучных кветак.*

### З раздзела «Сумная вакханалія»

***

*Сунецца сонца соннае*
*Па сіняй нябеснай сурвэтцы,*
*З шэрых аблокаў-іконаў*
*Глядзяць не анёлы, а чэрці.*

*Раніца. Дзікая, страшная,*
*Бо дрэвы бы мёртвыя птахі*
*Маўчаць. На стале маім пляшка,*
*Ды выпіць няма з кім, бляха.*

***

*Абрынецца ўсё і без нас.*
*У тартары знікнуць сусветы.*
*А покуль траянскі Пегас*
*Няхай нас імчыць з парапету*
*Уніз — дзе чакае экстаз*
*І зайздрасць цнатлівых паэтаў,*
*Сумлення іржавы каркас*
*І сіні дымок цыгарэты...*

### Палёт херувімаў

*Мне ніколі не быць ні шчаслівым,*
*ні вольным, як вецер.*
*Мне ніколі не ўбачыць спакою*
*ў вачах цішыні.*
*Застаецца адно: дачакацца*
*няўрымслівай смерці*
*І адплыць назаўжды па слаце*
*незавершаных кніг.*

*Не чытай гэты верш, мой таемны,*
*няспраўджаны сыне.*
*А калі прачытаеш, не смейся*
*над бацькам сваім,*
*Што сатканы радкі мае з думак*
*пустых і наіўных,*
*Што не пішуць так вершаў...*
*Іх, сыне, не пішуць зусім.*

*Бо даўно адышлі пад заслону*
*рабінавай ночы*
*За парог небасхілу паэты*
*і іх чытачы,*
*Каб зіхцець цішынёй над пустэльнямі*
*душаў сірочых*
*І самотны палёт херувімаў у вырай*
*сачыць...*

### З раздзела «Ты — як зямля»

***

*Цалую цябе — напалову святую,*
*А значыць, і мёртвую напалову.*
*Не вусны, а словы твае цалую,*
*Бо веру, што целам станецца слова.*

*Бо веру, здараецца ў свеце каханне.*
*Прынамсі, я бачыў яго сягоння —*
*Яно валялася побач з бамжамі*
*На бруку бліскучым нашай Гародні.*



Фота pinterest.com

### Ты і я

*Плача восень у тваіх вачах.*
*У маіх — вясна, як сталь нажа.*
*Хто убачыць наш з табой адчай?*
*Хто адкажа, дзе той небакрай,*
*За якім суцешыцца душа?*

*Раптам чуем гучны крык з крыжа:*
*«Я ёсць шлях да шчасця праз тугу,*
*Тайная дарога праз тайгу,*
*Праз ільдоў адвечных млечны жах».*

*Чуем, ды не бачым, хто з крыжа*
*Нам крычыць, бо позірк твой слязой*
*Раз'ядае восені іржа,*
*Мой — спакоем бэзу цвет замёў,*
*Нібы снегам — сховішча вужак.*

***

*Ты сказала: «Дабранач, Толік!*
*Хай зямля табе будзе пухам,*
*Хай табе твая вольная воля*
*Выйдзе бокам, стане навукай,*
*Хай прысніцца табе каханне*
*З пляшкай піва ў начной кавярні.*
*Спі, мой Толічак, спі маленькі,*
*Крумкачы твае выдзеўбуць зрэнкі,*
*І ты будзеш глядзець на неба*
*Не вачыма, а водбліскам срэбра».*

### Урывак з паэмы «Крылы»

*Думаў, буду як вецер —*
*Заўсёды юным, вясёлым*
*Светлавалосым дэндзі*
*З вачыма колеру колы.*

*Думаў, буду як неба —*
*Заўсёды мудрым і шчырым:*
*Пясок змыю залевай,*
*Раллю снягамі накрыю.*

*Думаў, буду як рэха —*
*Заўсёды ўсім адгукацца:*
*На смех — гэткім жа смехам,*
*На трэнас — вусцішным плачам.*

*Праўда, пакуль я думаў,*
*Сусвету шалі шалелі —*
*Людцаў гушкалі тлумы,*
*Не горш за тыя арэлі.*

*Гушкалі аж пад зоры*
*На радасць рэху і ветру,*
*На страшную злосць хворым*
*Хваробай зорнай паэтам.*

*Гушкалі і крычалі:*
*«Далоў гармоніі путы!*
*Волю сусветным шалям!*
*Нябёсы — простаму люду!».*

*Аб крык гэты шалёны*
*Ушчэнт разбіліся цені*
*Тых маўклівых мільёнаў,*
*Што гушкацца не хацелі.*

*А ўсё таму, што мільёнам*
*Глухіх і сляпых паяцаў*
*Раптам стрэльнула ў голаў*
*Людзьмі сур'ёзнымі звацца.*

*Стрэльнула: рыкашэтам*
*Прабіла ў нябёсах дзірку*
*На злосць рэху і ветру,*
*На радасць анёлам дзікім.*

*Сталі ўцякаць анёлы*
*З аблокаў праз дзірку тую,*
*Бо ўсім хочацца волі,*
*А пер'е не ўсім пасуе.*

*Кожны з іх быў цікавы*
*Да тых ці іншых пытанняў:*
*Што лепш — піва ці кава?*
*Што горш — смерць ці каханне?*

*Ці ёсць нейкі фарватар*
*Паміж бяздзействам і чынам?*
*Бяспечней пасляць матам*
*Мужчыну альбо жанчыну?*

*Так на бакі чатыры*
*У пошуках праўды-маткі*
*Збеглі, кінуўшы крылы,*
*Толькі бліснэлі іх пяткі.*

# Штаны

## Жахлівы выпадак у адной дзеі

Аляксандр АПОН

*На двухспальным ложку — суддзя Раман Гурскі і яго жонка Ларыса Мікалаеўна.*

*Тры гадзіны начы. Цішыня. Як раптам...*

Гурскі (крычыць): А-а-а-а...

Ларыса Мікалаеўна (падхапіўшыся): Рома! Ромачка!.. Што з табой?

Гурскі: А-а-а-а...

Ларыса Мікалаеўна: А божа мой! Што ж гэта такое? (Штурхае Гурскага ў бок). Раман, ачніся! Ты чуеш ці не?

Гурскі: Гэта ты, Ларыса?

Ларыса Мікалаеўна: Я, хто ж яшчэ. Што здарылася, Раман? Сон прысніў?

Гурскі: Не.

Ларыса Мікалаеўна: А што?

Гурскі: Змяя.

Ларыса Мікалаеўна (вішчыць): Якая змяя? Дзе?

Гурскі: На шыі. Душыць... душыць.

Ларыса Мікалаеўна (крычыць): А-а-а-а... (і, маланкай саскочыўшы з ложка, запальвае таршэр. Вось што яна бачыць: Гурскі ляжыць на спіне, у чырвона-зялёнай піжаме, і цісне сябе рукамі). А-ёй! Ромачка, што на цябе найшло?

Гурскі: Ларыса...

Ларыса Мікалаеўна: Га?

Гурскі: Ратуй, Ларыса, ратуй!

Ларыса Мікалаеўна: Дальбог ён сябе кончыць! (У жаху.) А што рабіцьмем, як адна жыцьмем?

Гурскі (хрыпіць): Хр-р-р-р...

Ларыса Мікалаеўна: Няйнакш даходзіць. Во — і вочы закаціў. Ну не, я гэтага не дапушчу! (Кідаецца на ложак і, ускочыўшы на Гурскага як наездніца, учапілася пальцамі ў ягоныя рукі, аддзірае іх ад шыі.) Фу, ледзь дала рады... (Пляскае наводмаш далоняй Гурскага па твары.)

Гурскі (схапіўся рукою за шчаку і затузаўся, каб скінуць з сябе жонку): Ты чаго б’ешся, чаго б’ешся?

Ларыса Мікалеўна (лагодным голасам): Усё, супакойся, супакойся. (Злазіць з яго сама.)

Гурскі: Не, ну як супакойся, калі шчака быццам апечаная гарыць?

Ларыса Мікалаеўна: Што тая шчака, Раман, калі ты во толькі чуць сябе не задушыў.

Гурскі: Я?! Сябе?... Чуць не задушыў?!

Ларыса Мікалаеўна: Чаму ты пазіраеш, як дурны баран на ваду, думаеш, я на цябе проста так ускочыла?

Гурскі: Не, не проста так, але... мо нечага хацела?

Ларыса Мікалаеўна: Чаго нечага, я не разумею, што ты маеш на ўвазе?

Гурскі: Гэта... як жа яно называецца... Увогуле, таго, чаго жанчына ад мужчыны хоча.

Ларыса Мікалаеўна: Э, Раман, ты тут (цягнецца і стукае ўказальным пальцам Гурскага па ілбе) нешта не тое сабе намысліў. Ды калі з намі гэта самае, што паміж мужчынам і жанчынай здараецца, апошні раз было? Ну, ці ўспомніш?

Гурскі: Я не вінаваты, што гэтак на рабоце прыстаю, як вечар — з ног валюся.

Ларыса Мікалаеўна: Ах, мой ты гаротнік! (Выцягвае рукі.) Давай, падсоўвайся, пашкадую. Нябось, вагоны з вуглём уручную разгружаеш?

Гурскі: Не, не вагоны. (Убок.) Але мо лепш і разгружаць. Спаў бы хоць спакойна. (Услых.) Пада́й, калі ласка, люстэрка.

Ларыса Мікалаеўна: Навошта яно табе?

Гурскі: На шыю падзіўлюся. (Мацае рукою шыю.)

Ларыса Мікалаеўна: Ну падзівіся. (Дастае з тумбачкі люстэрка з ручкай.) Толькі не напалохайся.

Гурскі: От не выдумляй! (Сеўшы на ложку, разглядае ў люстэрка шыю.) Але і сінякі... Дык ты сцвярджаеш, гэта я сябе так скалечыў?

Ларыса Мікалаеўна: А хто ж яшчэ? Калі толькі...

Гурскі: Што «калі толькі?» Працягвай.

Ларыса Мікалаеўна: Ай, нешта падалося, але нават і гаварыць не хочацца, такое дурноцце...

Гурскі: Ды не, калі пачала — кажы. Дык што там табе падалося?

Ларыса Мікалаеўна: Ты нейкую змяю ўзгадваў.

Гурскі: Якую змяю?

Ларыса Мікалаеўна: Крычаў: «Змяя! Змяя!». У мяне ад жаху сэрца ў пяткі ўцякло.

Гурскі (задумліва): Гм, цікава, цікава.

Ларыса Мікалаеўна: Толькі гэта проста смешна, бо, Раман, скажы, скуль у нас у доме ў спальні змяі ўзяцца, нават калі нейкая адна выпаўзла ў горад з заапарка?

Гурскі: Але ж нешта мяне душыла...

Ларыса Мікалаеўна: Каб я на свае вочы не бачыла, пад кожным тваім словам падпісалася б — усё праўда. Ты ж нават лямпачку ў таршэры памяняць (паказвае пальцам на таршэр) электрыка выклікаеш, баішся, што токам стукне.

Гурскі: А што тут за дзіва — у кожнага сваё рамяство. Адзін настаўнік у школе, другі інжынер на заводзе, нехта будаўнік, іншы шафёр альбо, нарэшце, той самы электрык. А я суддзя. Значыцца, мая справа судзіць — і ўсё.

Ларыса Мікалаеўна: Добра, ляжы ўжо, калі суддзя. (Злазіць з ложка і, рассунуўшы дзверцы, дастае з гардэроба халат і накідвае на плечы).

Гурскі: Ты куды?

Ларыса Мікалаеўна: Па мазь.

Гурскі: Па якую мазь?

Ларыса Мікалаеўна: Якая ў аптэчцы знойдзецца. (Засоўвае ногі ў пантофлікі і выходзіць.)

Гурскі (устае з ложка і ходзіць туды-сюды па спальні): Не, не, не і не. Не паверу. Ні за што не паверу. А ні за якія пернікі. Каб я пасярод ночы, ні з пушчы ні з поля, ды на цвярозую галаву, такое з сабой учыніў? (Мацае рукаю шыю.) І гэтая змяя... Зрэшты, Ларыса мае рацыю: скуль ёй у нас узяцца? Хаця (спыняецца)... як кажуць, чым чорт не жартуе, калі бог спіць. (Азіраецца вакол, затым абыходзіць куты.) Нідзе нічога. (Засоўвае галаву ў гардэроб.) І тут фіга з макам. (Пачухаўшы патыліцу, дастае з тумбачкі тэлефон, становіцца на калені і, падсвечваючы, зазірае пад ложак.) Во табе і на! Ты хто? Няўжо чорт?!

Чорт (з-пад ложка): Угу, ён самы.

Гурскі: Ха-ха, во дзе дзівосы. А ты сапраўдны... ці галюцынацыя?

Чорт: Сам ты галюцынацыя. На, памацай, калі вачам не верыш. (З-пад ложка высоўваецца лапа, да якой Гурскі з асцярогай дакранаецца.) Ну што?

Гурскі: Усё ў парадку — жывы. Дык гэта ты мяне душыў?

Чорт: Што ты, і не думаў!




Калаж yandex.by

Гурскі: А хто, бо не мог жа я сябе сам?

Чорт: Чакай, зараз вылезу. (Пакуль Гурскі ўстае з каленяў, Чорт вылазіць са скруткам пад пахай.) Апчхі! (Ацірае лапай лыч.) Пыл, каб яго халера.

Гурскі: Дык хто мяне душыў? Кажы, не цягні ката за хвост!

Чорт: Перад усім — не хто, а што. (Працягвае скрутак, які, разматаўшыся, аказваецца штанамі з бела-чырвона-белымі палосамі.) Вось яны.

Гурскі (злёгку асалапеўшы): Няўжо штаны? (Забірае ў чорта штаны і ўважліва іх разглядвае.) Ты ў гэтым упэўнены?

Чорт: На ўсе сто!

Гурскі: А ці не тыя гэта самыя, за якія я аштрафаваў... гэтую, як яе... Чорт, выляцела з галавы прозвішча. Руд... Руд... Не, не Рудую. А! Успомніў — Рудковіч. Так, пазнаю іх. Во — бела-чырвона-белыя палосы. Але як яны апынуліся ў маёй спальні?

Чорт: З дапамогай чараў.

Гурскі: Да чаго дайшло, га? Ну проста ні ў якія вароты!

Чорт: І гэта толькі кветачкі, а ягадкі будуць. Зрэшты, каму вайна вяроўка, а каму дойная кароўка.

Гурскі: Ведаю, ведаю. У нас вайна, калісь пачаўшыся, напэўна, скруціла сабе галаву, бо забылася скончыцца. Толькі вось што прыкра: усё неяк не знаходзілася нагоды напоўніцу ўплесціся: то баяўся, то быццам веразіла нейкае сумленне, ці

спрытнейшыя апярэджвалі...

Чорт: А ці гэта не той самы выпадак, які нельга прапусціць, каб потым зноў не шкадаваць, а хапаць за хвост птушку-ўдачу, пакуль не пырхнула. Падумай, добра падумай.

Гурскі: Думаў ужо.

Чорт: І што?

Гурскі: Прывабліва, няма чаго казаць.

Чорт: Дык наважвайся, гэта твой шанс.

Гурскі (цяжка ўздыхнуўшы): Э-эх... Пагатоў, хутчэй за ўсё, апошні.

Чорт: Чш! (Прыслухоўваецца.) Чую крокі. Сюды нехта ідзе.

Гурскі: Гэта жонка.

Чорт: Яна не павінна бачыць нас разам.

Гурскі: Хавайся ў гардэроб.

*Чорт хаваецца ў гардэроб, а Гурскі засоўвае штаны пад матрац і апускаецца на калені перад ложкам. Уваходзіць Ларыса Мікалаеўна.*

Ларыса Мікалаеўна: Чаго ты там поўзаеш? Нешта згубіў?

Гурскі: Штаны шукаю.

Ларыса Мікалаеўна (убок): Божа, няўжо ў яго памутнеў розум? (Услых.) Якія штаны? Усе твае штаны ў шафе.

Гурскі: Я не свае гляджу. (Выключыўшы тэлефон, сядае на ложку.)

Ларыса Мікалаеўна (упусціўшы цюбік з маззю): А чые?

Гурскі: З бела-чырвона-белымі палосамі.

Ларыса Мікалаеўна (убок): У яго закаціліся шарыкі за ролікі. Гэта ад стрэсу. (Услых.) Але ў нас такіх няма!

Гурскі: Я гэта ведаю. (Падымае са значэннем угару палец.) У тым якраз і справа.

Ларыса Мікалаеўна (убок): Усё ясна. Як піць даць — закаціліся... (Падабраўшы цюбік з маззю, услых): Давай хоць сінякі на шыі памажу.

Гурскі (выставіўшы перад сабой руку): Не, не чапай.

Ларыса Мікалаеўна: Што ты прыдумаў? Чаму?

Гурскі: Бо гэта не звычайныя сінякі, а сінякі — як доказ цялеснага пакалечання. Звані 003, выклікай хуткую. Трэба іх зафіксіраваць зараз жа, па гарачых слядах.

Ларыса Мікалаеўна (убок): І як найхутчэй выклікаць... Мо прыйдзе да розуму, калі ўшпіляць укол? (Услых.) Ужо пабегла. (Бяжыць.)

Гурскі: Стой! Толькі папярэдзь, што гэта выклік з дома суддзі Гурскага, каб не марудзілі, а маланкай ляцелі. Я ім не абы-хто, гадзі́ну чакаць не збіраюся. І адразу затым у міліцыю дзвынкні, скажы, што на нас напалі.

Ларыса Мікалаеўна: Авой-авой, што ні хвіліна — то нейкая навіна. Хто напаў?

Гурскі: Не важна, скажы: напалі, і ўсё.

Ларыса Мікалаеўна: Дык ты сам дзвынкні. (Паказвае на тэлефон на тумбачцы.)

Гурскі: Ды не магу, я ж паранены.

Ларыса Мікалаеўна: Выбачай, я забылася. А каб маланкай ляцелі, таксама папярэдзіць?

Гурскі: Не варта, у іх інструкцыя.

Ларыса Мікалаеўна: Як скажаш. (Выходзіць спехам.)

Чорт (высунуўшы галаву з гардэроба): Бач ты! Насмеліўся такі...

Гурскі (махнуўшы рукой): А будзь што будзе! Як кажуць: альбо пан, альбо прапаў.

Чорт: Што ты, што ты! З такімі картамі на руках — і прапаў? Ды з гэтай гісторыі не якуюсь там шараговую бела-чырвона-белую справу, а чорт ведвае што льга выкруціць — нават сусветны хіт. І няхай у мяне адпадзе хвост, калі сам (шматзначна змаўкае)... не зверне ўвагу, не зацікавіцца. А гэта дарагога варта. Цяпер якраз той час, калі можна ўмомант падняцца. Раз — і ў тузах.

Гурскі: Вось думаеш пра гэта, і то ў гарачку кідае, то як сіверам абдае, быццам паставілі да сценкі, каб расстраляць, а аб’яўляюць, што памілавалі. Сёння ты ніхто, нейкі суддзішка ў правінцыяльным гарадку, дробнымі махлярамі з рэчыўнага рынку ды калгаснымі несунамі займаешся, а тут — як цудам: глядзіш, і ў сталіцы, у Вярхоўным судзе засядаеш, лёсамі — ого якіх! — людзей распараджаешся, кола жыцця-смерці круціш, а то нават і ў Канстытуцыйным... А гэта ўсё роўна, што залезці да Бога за пазуху. Галоўнае што? Нічога не рабіцьмем, ні за што не адказвацьмем, а заязджай толькі на службовым «мэрсэдэсе», за кожным з канстытуцыйных суддзяў «мэрсэдэсы» пажыццёва замацаваныя, як, між іншым, і персанальныя пенсіі «За асаблівыя заслугі»... Раз на месяц за капэртай з грашыма (пляскае рукамі)... А людцы мае! За якой капэртай, такой, што ў кішэнь нізавошта не змесціцца, а толькі ў партфель, вось чаму калі і можна пабачыць таго альбо іншага з гэтых абраннікаў багоў ну там на якой-небудзь выбітнай прэзентацыіі, сусветнай канферэнцыіі альбо нарадзе ў прэзідэнта, дык толькі з партфелем ці з нечым іншым такога ахопу ў руках. І на гэтым усё. І канцы ў ваду.

Чорт: Але чаму так атрымалася, бо ўсе астатнія шышкі хоць удаюць якуюсь дзейнасць?

Гурскі: Слухай сюды... (Азіраецца, як злодзей, на вакно.) Толькі (прыкладвае палец да вуснаў) чш!.. Гэта вялікі сакрэт.

Чорт: Можаш на мяне смела разлічваць. Клянуся: нікому ні слова!

Гурскі: Добра. Дык вось: насамрэч аніякай Канстытуцыі няма.

Чорт: Як... няма Канстытуцыі! А што ёсць?

Гурскі: У лепшым выпадку — сем пятніц на тыдні.

Чорт: Ага! Во ў чым штука! Канстытуцыі няма, а канстытуцыйныя суддзі ёсць.

Гурскі: Усё правільна! Але глядзі, не прагаварыся. Ты абяцаў.

Чорт: Што ты! Магіла.

*Уваходзіць Ларыса Мікалаеўна. Чорт хаваецца.*

Гурскі: Ну што, выклікала хуткую?

Ларыса Мікалаеўна: Выклікала.

Гурскі: А папярэдзіла, каб маланкай ляцелі?

Ларыса Мікалаеўна: Папярэдзіла.

Гурскі: І што адказалі?

Ларыса Мікалаеўна: Што ўжо выехалі.

Гурскі: А ў міліцыю званіла?

Ларыса Мікалаеўна: Званіла.

Гурскі: А яны што?

Ларыса Мікалаеўна: Моцна здзівіліся. Нават запыталіся, ці не п’яная я. «Што вы, кажу, у рот, кажу, не брала».

Гурскі: Добра. Сядзь. (Ларыса Мікалаеўна сядае на ложак ля Гурскага.) Хачу сказаць табе нешта вельмі важнае. Пара нам, Ларыса, у сталіцу перабірацца.

Ларыса Мікалаеўна: У сталіцу?

Гурскі: Так, у сталіцу. Засядзеліся мы ў гэтай правінцыі, загразлі, бы тыя калёсы ў балоце,

Заканчэнне на стар. 7 »

# Штаны

## Жахлівы выпадак у адной дзеі

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

заплеснялі. Іншы раз ажно слёзы на вочы наварочваюцца, як падумаю, што сапраўднае жыццё праходзіць міма, як пясок паміж пальцаў уцякае. І гэтакая крыўда бярэ…

Ларыса Мікалаеўна: Як бог свят праўда! Вось у той чацвер, ці гэта пятніца была… хацела тайскі масаж замовіць, дык у нашым гэдык называемым салоне, у «Райскіх шатах», што на Савецкай вуліцы, пра такі нават не чулі! «Які-які, перапытваюць, тайваньскі?»

Гурскі: Толькі яшчэ не ведаю, куды лепш на службу паступіць — ці ў Вярхоўны суд, ці ў Канстытуцыйны.

Ларыса Мікалаеўна: Туды, дзе зарплата большая.

Гурскі: Го, бач, што ў цябе ў галаве.

Ларыса Мікалаеўна: Зрэшты, паступай, куды хочаш. А дзе мы ў той сталіцы жыцьмем?

Гурскі: Натуральна, у Раздах. Там, у адным кулаку(паказвае кулак), спрэс бліжэйшае кола: суддзі, пракуроры, следчыя, як і сілавыя міністры, бо што карысці, напрыклад, ад міністра адукацыі альбо лясной гаспадаркі? Ім і іншае месца прыдасца. А тут як што-якіясь хваляванні, закалоты, а то, нават, крый божа, мяцеж, так уляпіць гэтым кулаком, каб толькі мокрае месца ад бунтаўшчыкоў засталося! (Чуваць дзвярны званок.) Прыехалі нарэшце. Ідзі, сустрэнь.

*Ларыса Мікалаеўна выходзіць. Гурскі сядае на ложак.*

Чорт (высунуўшы галаву з гардэроба): Ляж.

Гурскі: А, ну-ну. (Кладзецца.) Паслухай, усё хацеў у цябе запытацца…

Чорт: Потым запытаешся, зараз не да гэтага. Выпрастай ногі і скрывіся, быццам моцна баліць. (Гурскі выпроствае ногі і крывіцца.) Ну што ты як сам не свой. Натуральней старайся. Эх, хрэновы з цябе, брат, актор. (Хаваецца.)

*Уваходзіць Ларыса Мікалаеўна, за ёю Урач у бардовай курткі з надпісам на спіне «Хуткая дапамога», з чамаданчыкам, і Фельчарка ў такой самай курткі.*

Гурскі (стогне): М-м-м-м…

Чорт (з гардэроба, убок): Але не без таленту.

Урач (прымасціўшы чамаданчык на тумбачку і прысеўшы на ложак побач з Гурскім): Што з вамі здарылася? Дзе баліць?

Гурскі (задраўшы падбародак, паказвае пальцам на шыю, жаласлівым голасам): Вось, доктар.

Урач: Што гэта? (Нахіліўся, каб лепей разглядзець шыю.) Хто вас? (Пераводзіць позірк на Ларысу Мікалаеўну, якая перайшла на другі бок ложка.)

Ларыса Мікалаеўна (прыклаўшы рукі да грудзей): Далібог не я!

Гурскі: Не, доктар, гэта сапраўды не тое, пра што вы падумалі.

Урач: А што ж яшчэ гэта такое? (Зноў засяродзіўся на шыі Гурскага.) Вось, яўныя сляды пальцаў.

Гурскі: Гэта сляды не ад пальцаў, а ад штаноў.

Урач: Штаноў? Якіх штаноў?

Гурскі: А вось гэтых… (Прыпадымаецца і, засунуўшы руку пад матрац, выцягвае штаны.)

Ларыса Мікалаеўна: А-ёй, чые гэта штаны, у нас такіх няма, і як яны апынуліся пад матрацам?

Гурскі: Я іх туды засунуў, каб не ўцяклі.

Ларыса Мікалаеўна і Урач (пераглянуўшыся, разам): Каб не ўцяклі?

Гурскі (працягвае як ні ў чым не было): А злавіў пад ложкам, дзе яны хаваліся, пасля таго як не здолелі мяне задушыць. Яны, калі хочаце ведаць, зачараваныя.

Урач: А-а-а-а… вунь яно што! Так, так, так…

Гурскі: Што! Вы мне не верыце?

Урач: Чаму ж — веру. Зачараваныя штаны з бела-чырвона-белымі палосамі — рэч, у нашых шыротах, вядомая. Ды мы й не такое бачылі. Вось (ківае галавой на Фельшарку), калега не дасць схлусіць. (Да Гурскага.) Зараз я вам зраблю ўкол. Гэта дапаможа. Прынамсі, зніме балявы шок, у якім вы, відавочна, знаходзіцеся. (Раскрывае чамаданчык.)

Гурскі: Не, зачакайце… (Сядае на ложку.) Гэта ж што выходзіць: вы аспрэчваеце сведчанні прадстаўніка ўлады?

Урач: Ды нічога я не аспрэчваю, якое там, нават і ў думках не маю!

Гурскі: Не перабівайце, калі я гавару. Абвінавачваеце гэтага самага прадстаўніка (тыркае сабе пальцам у грудзі), пагатоў прадстаўніка перадавога атрада гэтай самай улады (цягне палец угару), а менавіта праваахоўных органаў, у хлусні, чаго не можа быць!

Урач: Вы мяне не так зразумелі.

Гурскі: Я вас папярэдзіў. Глядзіце — пашкадуеце.

Урач (убок): Во ўкляпаўся. За панюшку табакі прападзеш, ні за што. (Услых.) Я ўсё зразумеў, выбачайце. Дык колемся ці не?

Гурскі: Калі вы лічыце патрэбным — я гатовы. (Кладзецца на ложку.) Толькі спярша выпішыце паперу.

Урач: Якую паперу?

Гурскі: Аб цялесных пакалечаннях.

Урач: Не-не, што вы, я не выпісваю такіх папер, не маю права. З гэтым вам неабходна звярнуцца ў траўмапункт шпіталя хуткай дапамогі.

Гурскі (абурана): Як я магу патрапіць у траўмапункт шпіталя хуткай дапамогі, калі я знявечаны?!

Урач: Вельмі проста. Мы вас туды зараз даставім на машыне. Апранайцеся.

Гурскі (ямчэй уладкоўваючыся ў ложку): Не, я нікуды не паеду.

Урач: Што ж, гэта ваша права. (Закрывае чамаданчык.)

Ларыса Мікалаеўна: А як жа ўкол?

Гурскі: І ніякага, без паперы аб цялесных пакалечаннях, укола.

Урач: Ну вось! (Разводзіць рукамі.)

*Раптам чуваць гэтакі тупат, быццам па калідоры ў бок спальні нясецца пара калгасных бугаёў, якія вырваліся, паламаўшы агароджу, з загона ля фермы.*

Урач: Гэта яшчэ што такое? (Глядзіць на Фельчарку, якая мяняецца з твару.)

Ларыса Мікалеўна: А божачкі мае!

*У наступнае імгненне ад удару дзверы зляцаюць з завесаў, і ў спальню ўрываецца паўтузін Службоўцаў у чорнай форме, з маскамі на тварах і аўтаматамі ў руках.*

Першы Службовец (крычыць): Усім ляжаць! Працуе амап! (Урач, Фельшарка і Ларыса Мікалаеўна снапамі валяцца долу.)

Другі Службовец (замахнуўшыся аўтаматам на Гурскага, які ляжыць на ложку): А ты асобнай каманды чакаеш?

Гурскі (заікаючыся): Ды-дыдык я ж ляжу.

Другі Службовец: На падлогу, хутка! (Гурскі кулём скатваецца з ложка.)

Першы Службовец: Не шавяліцца, дыхаць праз раз, падаваць голас толькі на мой загад.

*У той час, як трэці Службовец абыходзіць спальню па коле, а чацьвёрты зазірае пад ложак, пяты, адсунуўшы дзверы, заглядвае ў гардэроб.*

Пяты Службовец (да Чорта): Ты хто?

Чорт: Чш…! Не шумі. Свой я, на заданні.

Пяты Службовец: Зразумела. (Засоўвае дзверы.)

Першы Службовец: Суддзя Гурскі тут?

Гурскі (не падымаючы галавы): Гэта я.

Першы Службовец: Што ж ты разлёгся? Падымайся. (Гурскі падымаецца.) Міліцыю ты выклікаў?

Гурскі: Не, яна (паказвае пальцам), мая жонка.

Другі Службовец (павёўшы руляй аўтамата): А гэта хто такія?

Гурскі: Брыгада хуткай дапамогі.

Першы Службовец: Ды бачым ужо, што брыгада. Значыцца так: усім устаць і пашыхтавацца. (Усе ўстаюць і становяцца ля сцяны.) Дык што тут адбылося, хто на вас напаў? Адказваць коратка, выразна і па тэме.

Гурскі (выцягнуўшы з-пад матраца штаны): Вось яны.

Першы Службовец: Што гэта такое — штаны?

Гурскі: Так точна. Але, прашу звярнуць увагу, не звычайныя штаны, а з бела-чырвона-белымі палосамі.

Першы Службовец (разглядваючы штаны): Пацвярджаю наяўнасць фашысцкай сімволікі.

Гурскі: А гэта (задзірае галаву, каб паказаць шыю) цялесныя пашкоджанні, якія яны нанеслі мне ў ходзе нападзення. Ледзь адбіўся. І то з дапамогай жонкі.

Першы Службовец: Гм, ледзь, кажаш, адбіўся, і то не сам?

Гурскі: Так і было. Зрэшты, запытайцеся ў жонкі.

Першы Службовец: Запытаемся, калі палічым неабходным.

Гурскі (спяшаецца патлумачыць): Справа ў тым, што я прысудзіў нейкай грамадзянцы Рудкевіч штраф за тое, што яна выйшла на вуліцу ў гэтых самых штанах, бо па нашых законах, якія, як суддзя, не магу ўстрымацца, каб не пахваліць, самыя справядлівыя на свеце, гэта з’яўляецца ні чым іншым, як несанкцыянаваным пікетаваннем. Вось яна мне і помсціць.

Першы Службовец: Нешта прыпамінаю такое. Ага, на палітінфармацыі расказвалі. Толькі каб да вас у спальню залезла сама Рудкевіч альбо нехта, каго яна падбухторыла — муж ці палюбоўнік, было б лагічна. Ну а штаны! Як гэта наогул магчыма?

Гурскі: Яна іх заваражыла.

Першы Службовец: Толькі калі так… А хіба іх не канфіскавалі пастановай суда?

Гурскі: Не.

Першы Службовец: Гэта было памылкай. (Да другога.) Ну што, паляцелі браць Рудкевіч?

Другі Службовец: А які яе адрас?

Першы Службовец: Знойдзем у базе тэрарыстаў. Гайда, хлопцы.

Гурскі: Я перапрашаю… Ёсць яшчэ адно…

Першы Службовец: Што такое?

Гурскі: Вось гэты (паказвае на Урача), шкоднік, адмаўляецца пісаць даведку аб цялесных пакалечаннях.

Першы Службовец: Як гэта адмаўляюцца, чаму?

Урач: Выслухайце, калі ласка! Я не маю права даваць падобныя даведкі, гэта незаконна, я ўрач хуткай дапамогі.

Першы Службовец: Сёння не да законаў. Мы на вайне. Ушалопаў?

Урач: Ушалопаў. Але на чым я напішу? У мяне няма бланка ўстаноўленнай формы.

Гурскі: У мяне ёсць. (Паказвае рукой на выхад.) Папрашу ў мой кабінет.

*Усе выходзяць, акрамя Ларысы Мікалаеўны і Чорта, які вылазіць з гардэроба.*

Ларыса Мікалаеўна: Вой, хто вы?

Чорт: Мадам, не палохайцеся, я не ліхадзей і не злодзей, а ваш адданы прыхільнік.

Ларыса Мікалаеўна: Адданы прыхільнік? Мой? Але як вы патрапілі ў спальню?

Чорт: Улез у вакно. Прашу, не адмаўляйце, а дазвольце палюбавацца вамі, наталіць, гэтак кажучы, самотнаму падарожніку смагу. (Любуецца.) Чароўная! Чароўная!.. Але не, не налюбуюся, не нап’юся — ні за гадзіну, ні за двазе, няма чаго і спрабаваць. Вы як месячык ясны.

Ларыса Мікалаеўна: Хто-хто?

Чорт: Як паўночная зорка.

Ларыса Мікалаеўна: Ах, я вам не веру, вы са мной гуляеце.

Чорт: Што вы, я не насмеліўся б. Упершыню я ўбачыў вас у той чацвер, ці гэта пятніца была… калі вы перабіралі вуліцу на чырвонае святло. О! што за грацыёзнае стварэнне, дзяўчынка, свавольная дзяўчынка, слупянеючы падумаў я. Вы мяне асляпілі. І потым, калі вы зніклі за дзвярыма таго салона…

Ларыса Мікалаеўна: «Райскіх ша́таў»?

Чорт: Ага, «шатаў».

Ларыса Мікалаеўна: Дык вы за мной віжавалі?

Чорт: Мушу прызнацца — было. Але я не вінаваты. Вы разбілі мне сэрца. Мілая! Мілая! Дайце, дайце пацалаваць ручку.

Ларыса Мікалаеўна (падае руку, да якой Чорт з імпэтам прыкладваецца): Ах,як гэта несвоечасова, недарэчы зараз.

Чорт: Што вы! Што вы! Дарагая мая, сапраўднае каханне заўсёды своечасова і дарэчы, бо абрынаецца як снег на галаву з-падстрэшка — раптам і ні з таго ні з сяго.

Ларыса Мікалаеўна: Яно сапраўды так, але ж…

Чорт: Што такое, няўжо на свеце ёсць нешта, што можа перашкодзіць нашаму шчасцю, засланіць нам сонца, заступіць дарогу? Кажыце зараз жа, я не вытрываю няпэўнасці. Застрэлюся! Застрэлюся!

Ларыса Мікалаеўна: Не, не, нават не думайце пра гэта, не засмучайце мяне.

Чор: Добра, не буду. Але працягвайце, кажыце, што вас спыняе кінуцца з галавою ў бурлівы вір страсці, дарэшты аддацца гэтаму высакароднаму пачуццю?

Ларыса Мікалаеўна (патупіўшы вочы, напаўголаса): Я ў шлюбе.

Чорт: Вось навіна! Ды ў якія часы, дзе і каму такая акалічнасць замінала каханню?

Ларыса Мікалаеўна: Але гэта не ўсё.

Чорт: Не ўсё? А што такое?

Ларыса Мікалаеўна: А тое, што мы з мужам пераязджаем у сталіцу.

Чорт: Куды-куды? У сталіцу? Што ж вы там забылі?

Ласыса Мікалеўна: Я то нічога, а ён разлічвае на месца ці то ў Вярхоўным судзе, ці то ў Канстытуцыйным, не ведаю. А жыцьмем у Раздах…

Чорт: Можаце не працягваць, далей усё вядома. Здрадзіць.

Ларыса Мікалаеўна: Што?

Чорт: Абавязкова здрадзіць, як двойчы два. Выкіне вас на вуліцу, што дзіця зламаную цацку, без літасці і згрызоты, альбо, у лепшым выпадку, адкупіцца аднапакаёвай кватэркай на трынаццатым паверсе ў новабудоўлі дзе-небудзь на ўскрайку, за кальцавой.

Ларыса Мікалаеўна: Не, не, гэтага не можа быць!

Чорт: Чаму ж не можа, калі яны ўсе толькі так і абыходзяцца. Бедная мая, бедная жанчынка. Прачніцеся, расплюшчыце нарэшце вочы. Ужо такое праклятае месца, гэтыя самыя Разды, што сумленны чалавек павінен, не шкадуючы ног, абмінаць яго за кіламетр, а лепш за два. Паверце, я ведаю, што кажу. Варта толькі таму альбо іншаму, якога ўсе навокал лічылі прыстойным, патрапіць туды, дык і паўгода не праходзіць, як чорт ведае што ўчыняецца з чалавекам: спакуджваецца проста на вачах. І першай справай выганяе старую жонку, а бярэ сабе маладую. У іх гэта — як выпіць чарку каньяку ля каміна перад сном альбо выкурыць цыгарэту на тэрасе, само сабой, так заведзена.

Ларыса Мікалаеўна: Дык вось чаму ён туды так імкнецца, чаго яго быццам магнэсам у тыя Разды цягне… (Дзе і па́дае на ложак тварам у падушку.) Ці гэтага я чакала!? Ці такое заслужыла!? (Плача наўзрыд.)

Чорт (прылёгшы з другога боку на ложак і гладзячы Ларысу Мікалаеўну па галаве, ціхім пяшчотным голасам): Ну што ты, харошая мая, мілая, дарагая, не плач, не гаруй, усё сыходзіць, мінае, рассейваецца, бы ранішні туман, развейваецца, як дым. Я з табою. І ніколі і нізавошта цябе не пакіну, табе не здраджу. Бо ўжо такі я ёсць, такая мая натура: калі палюбіў, дык навек, да канца, да магілы. (Усхліпваючы, Ларыса Мікалеўна паварочваецца і туліцца да Чорта.)

*Уваходзіць Гурскі.*

Гурскі (вылупіўшыся): А што тут такое!? А вы гэта чаго!? А гэта як так!?

Чорт (прыпадняўшы галаву і выскаліўшыся): Згінь!

*Узмахнуўшы рукамі, як птушка крыламі, Гурскі правальваецца праз падлогу.*

# Сцежкі да вершаў



Яўген СКІБСКІ

## Хадыка

*Колькі кубкаў, мая айчына,*
*за здароўе тваё ні ўзняць —*
*усё роўна перад вачыма*
*будзе боль мінулага дня.*
*Не ўпэўнены, што ў сэрцы*
*зноў народзіцца верша крык:*
*кожны верш — па сэрцы скрабецца*
*ці дакладней — у сэрца цвік.*

*Што мне дробязі, што мне словы,*
*рухі, неба, зямля, трава —*
*бачу: ўверсе скалы адломак,*
*назіраю за ім у два*
*вокі —*
*ён існуе, не мроіцца,*
*я стаю, а ён хіліцца, ломіцца,*
*набірае хуткасць і сілу —*
*гэта помнік мой і магіла.*
*А ў вачах маіх, як кіно,*
*пачынаецца кругаверць.*
*Ты ж шукала мяне даўно,*
*мая злая сяброўка — смерць.*

*Не апошні я і не першы...*
*Чую, быццам кліча Гасподзь:*
*— Хто адказвае за вершы?*
*Выходзь!*

*Выйшаў, вочы ўгару ўзняў,*
*бачу воблака чорны сцяг.*
*Гэта воблака — з каменя,*
*засланяе ўвесь абсяг.*
*І яно да мяне бліжэй,*
*і яно за мяне дужэй,*
*і няма за яго цяжэй...*
*Дзе ж ты тая, што даражэй*
*за жыццё, за сонца, за мары,*
*за блакітны мой небасхіл...*
*За каменнай не бачу хмарай,*
*варухнуцца не маю сіл.*
*Дзе ж ты, Фая, і дзе ж ты, Уладзік?*
*У чароўнай ці старане*
*пагуляем яшчэ па садзе*
*ці сустрэнемся толькі ў сне?*

*Раптам чорным неба зрабілася,*
*чую музыку ў цішы.*
*Можа, гэта скала звалілася*
*з нечай хворай душы?*
*Усё роўна — мяне не тычыцца,*
*усё роўна — усё дарма,*
*усё роўна — жыцця не пазычаць мне,*
*бо працягу ў жыцця няма.*

*Не апошні я і не першы...*
*Іншых хай абуджае рань.*
*— Хто адказвае за вершы?*
*Устань!*

**02.02.2020**

***

***Паэтам, пацярпелым ад рэпрэсій 30-ых гадоў***

*Зорныя коўдры паэтам як стрэхі,*
*ніхто іх не вырве з-пад гэтых стрэх...*
*Крыкнуць — да нас далятае рэха,*
*сумленне мачалкай жалезнаю трэ.*

*Не, не мы ляжым пад змрочнымі елкамі,*
*але ж калісьці і нас, лёс, забяры...*
*Не, не мы раскінуліся вясёлкамі,*
*у неба ўзняўшыся з попелу на кастры.*

*Мы робім справы нашы звычайныя...*
*А з цягам часу вастрэй адчуваем —*
*не нашыя слёзы, горкія ды адчайныя,*
*зямля ў вазёры свае ўбірае.*

*І ў кожным возеры столькі гора,*
*што сто паэтаў знойдуць сабе ручай.*
*Яны сальюцца — і новы паэт, як мора,*
*зламае межы з назвамі боль і адчай.*

*А ці адмыюць душу душы салёныя?*
*А ці народзяцца ў сэрцы новыя мэты?*
*А ці, ўбачыўшы твары іх ды імёны,*
*скажуць: найлепшыя нашы паэты?..*

*Жыццё то гладзіць, а то палохае,*
*то ў абдымкі, а то ў ціскі бярэ,*
*і хоць марудна, але патроху я*
*цэгламі ў помнік ім кладу катрэны.*

**07.06.2020**

## Захару Кудзіну

*Многія лічаць — прайшлі часы,*
*дзе мастакам і паэтам*
*ламалі рукі і галасы,*
*зжывалі з белага свету.*

*Зараз не вешаюць на крыжы*
*(можа, крыжоў не хапае?),*
*кажуць: жыві сабе ды пішы —*
*ніхто цябе не чапае.*

*Нават нальюць у вушы ялей,*
*скажуць: пейзаж харошы.*
*І не страляюць яшчэ, але*
*і не заплацяць грошы.*

*І ў выніку — выйсце цераз акно*
*не падаецца памылкай...*

*Прыме неба ўсё адно*
*яго ў свае абдымкі.*

**10.01.2020**

***

*у межы шчыльна*
*уціснутыя абшары*
*кашулі парваныя*
*зламаныя мары*
*нізкія хмары*
*нізкі з кашмараў*
*і твары*
*разбітыя аб тратуары*
*змрочныя звесткі*
*здыхлыя кветкі*
*сонца праменьчыкі*
*рэдкія-рэдкія*
*нечыя стогны*
*слёзы і рэчы*
*нечыя рэшткі*
*маўчанне нечае*
*вандроўкі*
*вяроўкі*
*усмешкі*
*усцешкі*
*ружы...*
*розныя*
*сцежкі*
*да вершаў*

## Ганне Комар

*калі высахлым сэрцам*
*шукаеш магчымасць*
*адолець смагу*

*як ловяць кроплі дажджу*
*злізваюць расу*
*п'юць з лужыны*
*сочаць за струменьчыкамі*
*што цякуць*
*па паверхні труб —*

*чытаеш Фаўста*

*паміж літарамі маналогу*
*раптоўна ўзнікае*
*Чарльз Букоўскі*

*займае месца*
*і кажа:*
*потым*

*і ты адчуваеш*
*што ён мае рацыю*
*а твой сусвет*
*не стане ўжо колішнім*

*бо ў цёмны пакой*
*трапіў прамень*
*адскочыў*
*ад бліскучай паверхні напоя ў келіху*
*і будзе гойсаць па сценах*
*сонечным зайчыкам*

**16.09.2020**

## Міколу Адаму

*самая цяжкая праца —*
*рэдактар аддзела паэзіі*
*ад сівой даўніны*
*да нашых змрочных часоў*
*ходзяць легенды*
*паданні (і байкі)*
*пра суровых паэтаў*
*апантаных да небяспечнасці*
*ламаючых звычаі*
*стэрэатыпы*
*традыцыі*
*веру*
*і нават галовы*

*я чуў на ўласныя вушы*
*словы паэтаў*
*расповеды іх*
*падобныя да гісторый*
*пра чорнага альпініста*
*калі енк пераходзіць у ультрагук*
*калі па пакоі*
*лётаюць вазы келіхі і часопісы*
*калі сэрца выскоквае з горла*
*ад крыві*
*якая раптам становіцца кіпенем*
*бо ў тэксце змянілі слова*

*калі іх такіх не было б*
*я б першы сказаў*
*што паэзіі больш няма*
*прышліце кветкі*
*паэтам усім і паэткам*
*і можна спакойна піць*

*але пакуль яны ёсць*
*пакуль яны*
*нервы душу і сэрца ірвуць*
*рэдактару аддзела паэзіі*
*а найперш — сабе*
*жыццё мае сэнс*

*але*
*памятайце*
*пра рэдактара аддзела паэзіі*
*якому на жаль*
*ніхто не дасць малака*
*за шкоднасць умоў працы*

*а можа*
*таму і не дадуць*
*што па ўсмешцы ў яго на твары*
*па вачах*
*якія бачылі глыбіні і дно*
*палёты ў невядомае і ледзяны змрок вакууму*
*і засталіся жывымі*
*ўсім зразумела:*
*рэдактар аддзела паэзіі —*
*самая лепшая праца*

**22.09.2020**

## Ю. Ш.

*Сіняе неба*
*зменіць мой пыльны шлях,*
*кожнаму з нас,*
*тых,*
*хто ішоў па палях,*
*наканавана аднойчы*
*прайсціся высока між зор —*
*паможа з гэтым*
*старая з вострым лязом.*

*А я не чакаю,*
*пакуль анёлак*
*дуне ў трубу.*
*Зусім не гэта*
*зараз мяне турбуе.*
*Пакуль мой лёс*
*адусюль мяне не сатрэ,*
*мне трэба забыць цябе,*
*трэба забыць цябе,*
*трэ...*

*ох,*
*як трэба*
*забыць цябе,*
*адступіцца,*
*мне трэба схавацца,*
*зашыцца,*
*забіцца*
*ў кут,*
*у шафу,*
*у цемру,*
*мне трэба*
*закрэсліць цябе,*
*зрабіцца ценем.*

*Я ж моцны,*
*мне падаецца гэта магчымым.*
*Я волат,*
*я глыба,*
*я, урэшце, мужчына,*
*а вось упаў,*
*упаў, як зрэзаны колас,*
*пачуўшы голас*
*твой.*

**18.04.2021**

***

*Я гляджу мінулае.*
*Здымкі.*
*Рэкі, мора, лясы, масты,*
*людзі, твары, абдымкі...*
*Але не ты.*

*Ты глядзіш —*
*толькі проза дня.*
*Там старыя, там немаўля.*
*Вельмі многа народу рознага.*
*Але не я.*

*Мы с табою — як паралелі.*
*Ці магло быць інакш.*
*Гімн вянчальны даўно прапелі.*
*Але не наш.*

*Час павольна штурхае ў плечы.*
*Позірк сумны, пусты.*
*Хтосьці скажа: «Здароў, старэча!».*
*Але не ты.*

*А памром — усё роўна разам.*
*Так бывае.*
*У гэткі час*
*і хаваюць дваіх адразу.*
*Але не нас.*

*Вочы выцер — далонь сухая.*
*Дзве крыніцы пустых.*
*Любяць мяне,*
*кахаюць...*
*Але не ты.*

**15.08.2021**



Фота Сяргея Плыткевіча

# Мяжа сусвету



Сяргей КАЛЕНДА

## Радыеактыўная пустэча

Я Гасподзь, Бог твой, Які вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай

*Выхад 20:2*[1]

### 1.

Іаан распавядаў, што ў яго маленстве людзі жылі раскошна: былі аўтамабілі, самалёты і на ветразях водныя машыны. За грамадствам сачыла праграма, якая сканавала твары і целы, і так дазваляла карыстацца грамадскім транспартам, набываць прадукты атрымліваць медыцынскія паслугі.

Жыццё было боскім. Трэба выконваць сваю працу і атрымліваць усё самае лепшае: цёплую кватэру, ежу, медыязабавы…

Было ўсё, і не было незадаволеных.

Быў адзіны Бог Сонца, якога кожны, як хацеў, так і зваў: Яхве, Егова, Алах, Буда, Крышну…

Жыць было проста: адна праца, адзін Бог, адна сям'я. Не трэба клапаціцца пра штосьці большае.

І тут, за імгненне, ад шчасця нічога не засталося.

Кажуць, быў задзейнічаны вірус, што спачатку скасіў палову насельніцтва, а пасля зламаў сістэму бяспекі ва ўсіх кампутарах свету.

Ёсць сведчанні, што гэта запланаваны тэракт. Пасля вірусу мусілі выбухнуць АЭС, пакінуўшы ў жывых толькі мільярд — тых, хто абслугоўваў бы адзінак… Але хтосьці іншы запусціў ядзерныя ракеты і з deep state не засталося нікога.

Цяпер не тое, што кампутараў — ровар цэлы складана знайсці.

Зямля — суцэльная пустка, якую прынята лічыць жывой. Жоўтая. З адлівам атрутна-зялёнага. Чырвона-барвовая.

Тут і там уздымаецца полымя.

«Нас засталося з дзясятак, мы павінны трымацца адно аднаго», — прамаўляе ў начной цемры стары Іаан.

### 2.

Калі змяніліся тры пакаленні, пачалі нараджацца дзеці, якія здолелі і адаптавацца пад тэмпературу, і ўжываць любую вадкасць, і ўтульна пачувацца ў катлаванах. Старэйшыя не выходзілі з шатра без кіслародных пакетаў — малыя ж гойсалі вольна паўсюль.

Усе новыя дзеці, чацвёртае пакаленне радыёапакаліпсісу, — чырвоныя. Колер іх скуры падобны да крыві.

Незвычайнае цяпер ёсць будзённым.

### 3.

Іаану шмат хто не верыць, бо ён часта пачынае распавядаць байкі пра бесправадны інтэрнэт і дроны. Але Іаан — самы стары не свеце, і яго многія завуць пракрокам, бо сотні разоў ратаваў іх караван ад банд, бо заўсёды ведаў больш за астатніх. Іаан кажа, што маладым ён жыў у краіне, дзе трэба было ўмець змагацца і быць гатовым да ўсяго. Цяпер жа прарока часам заносіць у цемры памяці так, што нават старое пакаленне не можа патлумачыць, пра што ён кажа. Можа, гэта відзежы, а можа — проста старасць.

### 4.

Аднойчы, калі караван знайшоў даліну, амаль некранутую выбухам, было вырашана застацца ў гэтых мясцінах надоўга — пакуль не скончацца запасы і даліна не будзе даследавана ад кожнага кута да кожнага куста, каб назапасіць харчоў на гады наперад. Іаан кажа, што калі рухацца ў бок зялёнага сонца, якое так няшчадна паліць, можна дакрочыць да напаўцёмнага боку зямлі, дзе, на яго думку, жыццё віруе: там смачная вада і «чыстыя» зубры, на якіх можна будзе паляваць, як у старажытнасці.

І лагер быў разбіты ажно на сем гадоў. Ежы хапала, каб пачаць радавацца жыццю і забыцца на іншы бок планеты.

Чырвоныя падраслі, і пачалася сапраўдная канфрантацыя старых і дзяцей, бо пытанні пра чырвонаскурасць былі ўжо абрыдлыя. Як і адказы на тыя пытанні.

Малыя не разумелі, чаму яны такія, і, калі пасталелі, пачалі самі фармавацца ў групоўкі. Лагер ператвараўся ў фронт няўтульных пытанняў і падлеткавай варожасці, калі дастаткова не так паглядзець у іх бок, каб сутыкнуцца са злосцю, непараўнальнаю з позіркам.

Чырвоных дзяцей Іаан назваў марсіянамі.

Ніхто не зразумеў, але ўсе палюбілі гэтую мянушку.

### 5.

А потым адзін са старэйшых дзяцей — Бэньямін — аднойчы прыйшоў на заняткі да Іаана з каляровым крота-пацуком.

Хлопец сказаў, што гэта ён звярыны слуга, бо гэта бог, што плюецца кіслай слінай, ад якой усё звярэецца на вачах. І, каб даказаць свае словы, сціснуў стварэнне — тое плюнула далёка на сцэнку шатра, і яна адразу пачала плавіцца.

### 6.

Чырвоныя дзеці пачалі таемна адлоўліваць жывёл, каб пакланяцца ім, як гэта раіў першы, хто славіў істоту, — марсіянін Бэньямін

Спачатку Іаан не зважаў, што суполка дзяцей паводзіць сябе занадта добра: усе выконваюць хатнія заданні, вучаць мову, чытаюць кніжкі, якія знойдуць, а збольшага недагарэлыя, зацвілыя брашуры і рэкламныя праспекты…

Група марсіян жадала жыць па-новаму, і гэта адчувалася ва ўсім. Але ніхто не падаваў выгляду.

Іаан назіраў за ўсім звонку і пакуль што маўчаў: вакол пустэльня, паветра бы полымя, а моладзь стварае сабе новае жыццё, быццам беручы сілу з пяску і спёкі.

### 7.

І вось… дзеці не падзялілі палаючага звярка.

Марсіяне сварыліся на вачах усёй абшчыны, якая ўжо налічвала сотню жыхароў. Тады Іаан і заўважыў: марсіянскія дзеці хаваюць тузін дзікіх стварэнняў ужо шмат месяцаў. Пакуль гэтыя істоты знаходзяцца ў іхным атачэнні, яны выглядаюць бясшкоднымі. І гэта дзіўна. Бо ніводны чалавек яшчэ не выжываў самотным у пустэльні — даводзілася яднацца. А тут — ва ўсіх на вачах і адначасова таемна чырвонаскурыя прыручылі драпежнікаў.

### 8.

Іаан вырашыў сабраць Першы вялікі сход. Стары знайшоў узвышша, загадаў паставіць на ім ложак і лёг.

— Сябры мае! Дзяды, бацькі і маладыя марсіяне! Наш час яшчэ не прыйшоў, бо мы самі не прыйшлі да месца нашага прызначэння! Сем гадоў мы прастаялі тут — выраслі, адужэлі, назапасілі ежы і вады, навучыліся чытаць і пісаць. Цяпер настаў час ісці зноў. І няхай вас больш не палохаюць каляровыя істоты! Марсіянскае пакаленне знайшло да іх падыход, таму я здымаю закон аб забароне радыеактыўных драпежнікаў!

Пачуўшы гэта, марсіяне радасна заскакалі, чаго не скажаш пра старэйшае пакаленне: тыя пагналі ва ўсю моц, падалей ад звяр'я.

Раптам крота-пацук Бэньяміна апынуўся каля ложка Іаана і выпусціў тонкую струйку на шыю старога.

### 9.

Прарок так і не ўстаў: ён страціў прытомнасць, потым знерухомеў, і на трэці дзень яго пахавалі.

Пасля жалобы марсіянін Бэньямін сабраў Другі сход.

— Найшаноўнейшае спадарства, будучае грамадства планеты! Жывёлы нашы — нашы багі. Так сказаў мне ў відзежах Іаан, прарок наш! Я абяцаю вам усім, што яны абароняць нас у падарожжы. Рушым жа з іх дапамогай у будучыню!

***Красавік—травень 2021***

[1] Тут і далей цытаты з Бібліі публікуюцца ў перакладзе Васіля Сёмухі, World Wide Printing Duncanville, USA 2002.

## Мяжа сусвету

Не прагні дому блізкага твайго.

*Выхад 20:17*

Я заўсёды казала, што гэтыя поскудзі з шостага паверха да сметніку ніколі не даносяць свае пакеты, вечна іх вароны калашмацяць, потым памперсы, бульбяныя лупіны па ўсім двары раскіданыя, а потым гэтыя бамжы, мярзотнікі, цырушаць сметніцы, усё скарбы шукаюць, раскідваюць больш, чым тыя вароны. А тыя, што насупраць, пастаянна на лаўцы па вечарах з'ядаюць бургеры з Макдональдса свайго смярдзючага, потым толькі пакеты і кубкі па ўсім газоне ветрам перакотваюцца. А яшчэ нехта па начах выблёўвае з форткі ўсё сваё пітво за вечар. Дадумаўся, блін! І недапалкаў дадае столькі, быццам там гірнізон байцоў па́ліць перад марш-кідком… Ёсць яшчэ тыя, хто газон гатовы выкапаць, дрэвы выкарчаваць і кусты павытыркаць — усё шукаюць заначкі свае. Вось, напрыклад, на дзявятым жыве сапраўдная Венера — жанчына проста кожны дзень прыязджае дадому на новай машыне! Гэта ж колькі трэба мець здароўя столькі трахацца! Мне казалі, што гэтая, з дзявятага, ездзіць на машынах «вубер», хутчэй за ўсё, так называецца фірма, якая ёй пастаўляе гэтую бясконцую колькасць мужчын. А тыя трайняшкі з шостага — кожная нарадзіла ўжо па тры дзіцёнкі, і на кожны год, як па плане, цяжараць, і ў ніводнай няма мужыка! Жах! Я не раз падыходзіла да іх дзвярэй, слухала, дык сярод крыкаў і гогату дзяцей чутно толькі, як гэтыя мамкі плачуць і скрыгочуць зубамі! На пятым жыве гадкі падлетак, які брудзіць у пад'ездах і плавіць кнопкі ліфта, і тое, што я з ім зрабіла, я распавяду пазней, бо пакуль толькі знаёмлю цябе, мой любы цень у звонкіх вокнах і шэрых люстэрках. Гэтыя ўсё ніяк не нападарожнічаюцца… То з валізамі ў Егіпет, то ў Турцыю, то яны на закупы ў Польшчу, то на ўікэнд у Літву, от добра што лакдаўн, сядзіце дома! У гэтых бясконцы рамонт, такое адчуванне, што ў іх там завод! Колькі ж можна штодзень дрэліць, забіваць цвікі! Я да іх хадзіла процьму разоў — не адчыняюць, падлы. Ёсць адзін прыдурак з першага пад'езда, які выкарчаваў дзесяць канадскіх дэкаратыўных елак, насыпаў там гравій і паставіў сваю машыну, нават ланцугом пазначыў і замочак павесіў. Як вы думаеце, якая ў яго машына? Правільна, «бэ-эм-вэ»! Бо толькі на такіх машынах ганяюць як ёлупы ў гэтай грэбанай Еўропе! Яшчэ і сігналяць, гады! Ужо галава ад іх трашчыць! Мне добра бачны з вокнаў увесь свет, і я стаўлю яму два, бо ён кепскі, кепскі ён вельмі! На восьмым жыве сямейства дзяржслужачых — муж з жонкай і двое ейных сыноў. Усе чацвёра такія белыя, з чорнымі вачыма, і выглядаюць так аднолькава, што калі б я іх сустрэла ўвечары пад святлом ліхтароў, не пазнала б, хто з іх хто. Днём іх нябачна — ўсе па іспалкомах, а позна ноччу я назіраю, як іх целы ажно адбіваюцца белым у двары. Туды-сюды, туды-сюды. Ёсць у мяне падазрэнне: яны кантралююць раён, ахоўваюць яго ад чырвоных і белых стужак. Ох, якія яны страшныя людзі! Ну нічога, хутка мая помста іх спаткае! Ёсць яшчэ суседка, якая штотыдзень вывалочвае пад бэз чарговую мяккую цацку. Дзе яна толькі знаходзіць столькі гэтых страшыдлаў! А гэтыя фацэты, што заплявалі семкамі ўсе ўслоны і дзіцячыя пляцоўкі — як я іх ненавіджу, асабліва калі яны свае семкі перамешваюць з недапалкамі, жуйкамі і бутэлькамі з-пад піва! Каб яны падавіліся! Але самы вялікі мой боль — гэта дзеці і галубы. Ніякія сілы не спыняць адных псаваць усё, што бачаць, а другіх серці паўсюль: на асфальт, траву, пясок, вокны, машыны, дзверы. Падлавіла гэтых рамонтнікаў — наўмысна дзяжурыла пад дзвярыма, хавалася за лесвіцай. Чакала, бо дакладна не было ні стуку ні гуку з кватэры. У выніку падлавіла, калі яны, гэтыя два бамбізы, адчынілі ўваходныя дзверы. Я не дала ім зайсці першымі — куляй заляцела ў кватэру, і сапраўды: у аднапакаёўцы стаіць станок дрэваапрацоўкі, з рыштункам, каб не толькі паліцы збіваць ды вешаць, але каб рабіць і складанейшае — мэблю драўляную, то дакладна. На свае вочы бачыла! Во даюць, наладзілі тут ікею! Я не стала нават гутарыць з імі, проста пазваніла куды трэба, каб праверылі жыллёвае памяшканне… Я спачатку выкідала баваўняныя лялькі ў сметнік, але яны вярталіся, брудныя, аблезлыя, але ж вярталіся. Тады я проста пачала іх крумсаць нажніцамі і тады выкідаць, і так, каб розныя часткі ад звяроў — мішак, зайчыкаў, чабурашак усякіх — былі ў розных кутах раёна. Я выбіла шыбы ўсім тым, каго знайшла, усім, хто выкідае смецце з вокнаў. За гады жыцця я накідала сотні палаючых пакетаў з лайном пад дзверы тых суседзяў, хто сябе кепска паводзіў, давялося пакараць усіх па чарзе. Фацэты тыя, падлеткі, з мясцовай школы… Што я толькі не рабіла: і яйкамі іх закідвала, як снайпер, хаваючыся на гаўбцы за геранямі, і выклікала на іх міліцыю, а яны толькі размнажаюцца, іх усё болей становіцца. І я прыдумала, я зрабіла процьму падпісаў, хто з іх што прадстаўляе у гэтым свеце. Панадрапвала імёны, мянушкі і добра так іх усіх абразіла. Цяпер на кожнай лаўцы ёсць інфа. Рассварыла я іх знатна, ажно сядзела перад вакном увечары і назірала першую разборку, бойку усіх супраць усіх. Файна было. Я ж не вінаватая, што яны такія тупыя і злосныя, як сабакі бешаныя. Ну што я магу сказаць… Адсачыла я тую сям'ю чыноўнікаў і даведалася, што яны ў іспалкомы цяпер ні нагой — хатняй працай займаюцца, разглядаюць лісты ад мясцовага насельніцтва, літаральна не выходзячы з кватэры. Я на свае вочы бачыла, як у калідоры бацька іх, здаецца, падвешаны за ногі зялёным дротам уніз галавой, матляецца з боку ў бок. Я, праўда, не чакала такога ўбачыць, ускрыкнула, але і яны не паспелі ўбачыць мяне, бо я хутка скокнула за ўваходныя дзверы. Я, праўда, паспела шпрыцом упырснуць у дзвярны праём усе дваццаць кубоў сырога яйка, вось жа пах ім будзе — такі, што не пазбавяцца, пакуль дзвярную каробку цалкам не памяняюць! Няхай ведаюць, што за кантроль над раёнам будзе ім помста! Блін, я так і не знашла таго самага, хто столькі бутэлек выкідае ў фортку. Каб у яго ад водкі пячонка здохла, ад цыгарэт лёгкія! Спадзяюся, хутка. З бэ-эм-вэншчыкам я доўга не марудзіла, а наўпрост ноччу выйшла і падпаліла машыну. Згарэла яго тачка, як і, дарэчы, суседнія тры, але ж то не мая віна, не трэба было ставіць на самаробным паркінгу свае карчы! Ды яшчэ і сігналіць цэлымі днямі! А потым мне быў відзеж: прыйшоў да мяне Архангел Гаўрыіл і сказаў, што я ёсць меч у руках Госпада, меч, які карае, і я думаю, трэба будзе пашырыць сваю дзейнасць, можна заняцца кругласуткавым назіраннем, паставіць паўсюль камеры, запісваць наваколле і помсціць, помсціць, каб памяць была вечнай аб подзвігах маленькага чалавечка, няважна, якой цаной…

— Ева, дачушка! Мы дома! Мы забыліся заехаць у краму. Татка моцна стаміўся з дарогі. Кіравалі ўвесь дзень!

О, гэта мае старыя вярнуліся. Я б даўно ад іх пазбавілася, але нельга: жытло, жрачка… А так я занятая толькі сваёй місіяй. А яны няхай думаюць, што я вучуся анлайн ва ўніверсітэце Нямеччыны. Ох, як жа мне хочацца іх кокнуць! Ты, мой цень, мой берсерк, беражы сябе для годных справаў, трымай раён у сваіх сталёвых пальчатках, і будзе табе слава ў Вальгале, куды трапляюць усе воіны святла!

— Мамуся, я ўжо апранаюся! Можна я сабе марозіва куплю?! І чыпсы?!

— Марозіва набудзь, але чыпсы маладой прыгажуньцы — кепска для скуры і фігуры!

— Ладна! Татусік, а можна часопіс?!

— Добра, Еванька, і яшчэ, калі ласка, бульбу і свежую куру!

***Ліпень 2021***

# Воды самоты



Таццяна ЯКАВЕНКА

### У гэтым доме старым...

*У гэтым доме старым, у састарэлым доме,*
*Мы яшчэ незнаёмыя... мала знаёмыя...*
*На трухлявай верандзе, засыпанай лісцем бярозы,*
*Мы ўглядаемся ў неба, пранізліва і асцярожна.*
*У гэтым доме, дзе лісце й прыступкі сапрэлі, дзе восень,*
*Мы не можам паверыць у тое, што лёс нам прыносіць,*
*Нас з табой у гэтым свеце адно і яднае —*
*Маем рацыю ў тым, што праходзіць усё і мінае...*
*Мы не верым... Мы мудрыя.*
*Мы да жыцця падыходзім сур'ёзна.*
*Ў гэтым доме старым нам дваім неспакойна і млосна.*
*Нешта з намі не тое. Не так.*
*Нешта ў куце шкрабецца, пужае.*
*Можа, вера ў тое, што ўсё — усёроўна мінае.*
*Мы с табой асцярожныя. Усе мы ўлічылі нюансы.*
*І не чуем мы, як вастрыём дысананса дакранаецца*
*нешта да шчэму ў пальцах,*
*Да ледзь чутнага ўсхліпу, як быццам бы*
*вецер гайдае галіны даўно састарэлай ліпы,*
*Быццам вецер гайдае, ці плача пакінуты гномік*
*У тым доме старым...*
*У састарэлым доме...*

### След ад твайго чоўна

*Пахнуць твае далоні мятай і дзікім хмелем.*
*Што прыгадаю зімою з соладу палкага лета?*
*Час перасее памяць.*
*Час усё перамеле.*
*Час не знаёмы з болем...*
*Што прыгадаю зімою?*
*Можа, твае вусны?*
*Позірк твой прамяністы?*
*Можа, бязмежны давер?*
*Сонечна-залацісты россып тваіх вяснушак*
*плаўна ляціць уверх...*
*Што там цвіркун варожыць?*
*Дзе мне знайсці разгадку...*
*Ў тым, што дні карацеюць,*
*нашай віны няма.*
*Можа, і сапраўды ты шчыра кахаў мяне летам.*
*Што прыгадаю зімою?*

*Ад чоўна твайго след...*
*Кожны ў сваіх сценах,*
*з кубка ўласнай самоты*
*вып'е па кроплях зіму.*
*Снегам завее душу за гранню дабра і зла...*
*Толькі зрэдку ты прыснеш з памяці сонечным промнем,*
*як вада з-пад вясла.*

### Ужо памяць пачарнела...

*А памяць пачарнелая, сухая...*
*О, як страшаць яе падвальныя хады.*

*Мужчына гэты мне не раз казаў "кахаю",*
*ці, можа, так яму здавалася тады...*

*Так і застаўся для мяне ён непасціжным,*
*хоць і дагэтуль нашых зносін не забыў.*

*Мужчына гэты для мяне... Казаць залішне,*
*кім быў ён для мяне... О, кім ён быў...*

*А што ж цяпер? Паўзмрок кафэ старога.*
*І не знайсці ніяк патрэбных слоў.*

*Мужчына гэты... Больш няма такога.*
*Ды, дзякуй выпадку, сустрэліся мы зноў...*

*Мужчына гэты... І навошта без яго я?*
*Як без яго... Адзіны ён, як лёс...*

*Бывай!*
*Бывай!*
*Натоўп нас зноў раздвоіць.*

*Бывай!*
*На ўсё жыццё...*
*Не вымавіць без слёз!*

### Стары раяль

*А потым ужо, калі зоркі знікаць мусілі,*
*і водгук спалоханых слоў у празрыстым паветры згас,*
*павольна прыйшла таямнічая, ціхая музыка,*
*павольна прыйшла і навек раз'яднала нас.*

*А човен плыве, і да берага хваля лашчыцца,*
*і непадуладная часу рака дзесьці ў Вечнасць цячэ,*
*і толькі ніколі, ніколі ўжо не заплачацца,*
*ад шчырай пяшчоты тваіх незабыўных вачэй.*

*Чаму мне заўсёды бракуе парывістай мужнасці,*
*што бурыць плаціны, зрынае старыя масты?*
*Лунае-лунае-лунае павольная музыка,*
*павольна-павольна-павольна знікаеш і ты.*

*Становіцца месяц празрыстым, нібыта падробленым,*
*вось ён растае... растае... растае, і яго ўжо няма...*
*На водах самоты гайдаецца чоўнік напаўзатоплены,*
*абрысы яго паглынае глыбокі туман.*

*У светлую даль сакавік той адносяць імклівыя ветразі,*
*дзе болей не маюць значэння ні боль, ні пакута, ні жаль.*
*Хіба толькі хатка на стромкім, высокім беразе,*
*як-быццам пакінуты кімсьці стары раяль.*

### Дэманы любяць верных

*Горад — галодны дэман.*
*Вокны, нібыта пашчы.*
*Вуліц хрыбты змяіныя*
*золатам зіхацяць.*

*Ўсё яшчэ думаеш:*
*— Дзе мы?*
*І для чаго? — сабе кажаш.*
*Кажаш сабе: — Адзінае*
*выйсце — ўсё дараваць?*

*Заўтра наступіць ранак.*
*Заўтра ўваскрэснуць храмы.*
*Вокны будуць, як вокны.*
*Вуліца, як штылет.*

*Сонца зацягне раны.*
*Вецер разгладзіць шнары.*
*Станеш свабоднай і лёгкай,*
*як і раней, але...*

*Дэманы любяць верных.*
*Дэманы прагнуць улады.*
*Дэманы не сыходзяць,*
*як ты ні пратэстуй!*

*Дзіўна — няўжо 'шчэ верыш*
*у прабачэнне здрады?*
*Ведай — на падыходзе*
*ноч з апошнім "даруй!".*

***Пераклад з украінскай Валянціны ОСІПАВАЙ***

# Новы сусвет



Аксана ШАЛАК

### Народзіны

*Воды прыроды,*
*Дзе неба зыркоча з плыні,*
*Дзе з глыбіні вяртаюцца*
*Забытыя пробліскі шчасця, —*
*Воды тыя, нібыта ў паводку,*
*Схлынаюць...*
*І дзіцёначак хакае-хакае,*
*Напаўняючы радасцю поўны ўздых.*
*Новы сусвет нарадзіўся.*

### Пакровы

*Тую тугу*
*Выбавіць*
*Зможа старэнькі лірнік.*
*Пад яго пасыламі*
*Загалосіць,*
*Госпадзе, аж заякоча ліра:*
*"Плач, душа грэшная,*
*Плач наўзрыд!"*
*І распятая на крыжы,*
*Зняважаная шальмаваннямі*
*(Ці ж не бачыць Бог здзекі?!")*
*Ты ўваскрэснеш.*
*І для ўсіх недаверкаў*
*Аб'явішся...*
*Зіркотная, як слязіна з вачэй,*
*Украіна...*

***

*Ноч натопчацца — і нябёсы*
*Асыпаюцца зоркамі сноў.*
*Сны мае падбіраюць росы*
*На сцяжынах абвугленых слоў.*

*Тлее попел. І галавешкі*
*Параскіданыя на разлог...*
*Толькі ў небе надзей усмешкі*
*Зноў з душою вядуць дыялог.*

### Стэп

*Памеркла сонца,*
*Пікі вострыя навальніц*
*Захраслі ў грунце.*
*Табун адзічэлы*
*Стаптаў капытамі*
*Стэп —*
*І вяршкі пакалыхваюцца*
*У звечаровай сівізне*
*Тужлівай жаночай*
*Песні.*

***

*Брама сутоння — наросхрыст.*
*Варты не чуцен тупат,*
*Сціхлі абшараў кросны,*
*Вуліц замоўклі дуплы.*
*Зноў з цішыні праз вечнасць,*
*Голасам, нібы джала,*
*Рэха хтось пространі вечка...*
*Лезе з шапочым шалам...*
*І з даўніны, з адчаю,*
*З песні, якая бялей белізна, —*
*Крыкам адчайнай чайкі*
*СМЕЛАГА цемень будзіць.*

***

*Усё, што знікае*
*За белым тым аркушам, —*
*Бялёсае аж занадта...*
*За аснежжа бялей белізна —*
*Бель майго белага верша.*
*Люстэркі вачэй памятаюць цябе —*
*Мілае дзеўчанё.*
*Калі б да зачыну вяртацца —*
*Ты не захочаш абновы.*
*Тое, што пераважыта-абжыта,*
*За плячыма зырчыць.*
*Тое, што навідоку, —*
*Навек абазнана найменнем*
*Айчына.*

### Кілім

*На гэтым даўнюткім кіліме —*
*Зоранька, кветка, лодка...*
*Вунь крыллі зляжылі ва ўздыме*
*Лебедзь і з ім лябёдка.*

*У зарасніку заблукала*
*Спуджанае аляняткa...*
*На ўзлеску яно не прапала:*
*Вунь зыркае вокнамі хатка...*

*І аляняткa знойдзе,*
*Перш чым пайсці на луг,*
*Лустачку хлеба на плоце,*
*Цмокнуўшы сонейка круг.*

***

*Хтосьці з торбы чароўнай ночкі*
*Выпусціў Месяц-поўню...*
*У радасці нашы вочкі,*
*Бо страх залез у шпакоўню.*

*Пакоціцца Месяц небам —*
*Нібыта дзівосны мячык...*
*Пакорміцца жытнім хлебам*
*І знойдзе ля студні глячык.*

*Блудлівым світанкам ночка*
*Паскідвае з Месяца стужкі:*
*А раптам той мяч — сарочкай*
*Прылёг ля тваёй падушкі?*

***

*З чорнай торбы вароны арэх*
*Пакаціўся ў чароўны прарэх, —*
*І з арэха, нібыта з меху,*
*Казка выпала — жменя смеху:*
*Пра варону і пра арэх,*
*Пра пухнаста-уцешны снег,*
*Пра чаканне ў вакне каралевы...*
*Коні, сані, смуга залевы —*
*Утаўчэцца ўсё ў той арэх...*
*На парог скокне Год са стрэх.*

***Пераклад з украінскай Сяргея ПАНІЗЬНІКА***

# Сын верны маці-беларусі

Іван АКУЛІЧ

**Тодар Лебяда. Плачуць ліпы на кургане. — Мінск, «Кнігазбор», 2021. — 168 с.**

Кніга гэтага творцы-пакутніка (якіх у паўтысячагадовай гісторыі беларускай літаратуры большасць) чакалася са стагоддзе. На жаль, многія тэксты Тодара Лебяды (псеўданім Пятра Шырокава) згінулі ў часе сталінска-бальшавіцкіх арыштаў, турэмных увязненняў і сібірскіх гулагаў. Але дзякуючы шматгадовым апантаным даследчыцкім высілкам Сяргея Чыгрына (укладальніка, аўтара прадмовы і каментароў) у анансаванай кнізе сабрана ўсё магчымае (і нават немагчымае) з ацалелай спадчыны адметнага, трагічнага аўтара — паэта, драматурга, празаіка, публіцыста.

Ён нарадзіўся 6 студзеня 1914 года ў Віцебску ў сям'і рабочага і чыгуначнай праведніцы. Закончыў Менскі педагагічны тэхнікум, адчуў прагу да арфейскіх узлётаў — і разам з іншымі адзінаццаццю студэнтамі-аднагодкамі быў беспадстаўна абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме і арыштаваны. А затым — трагічны лёс арыштанта-смяротніка, бальшавіцкага канцлагерніка, бадзяжніка, выгнанца-эмігранта, вяртанца, зноў лагерніка, пасля — нізкапрофільнага работніка. Лёс, які закончыўся ў 1970 годзе...

У 1940-м у Мінскай турме ў вершы «На сцяне 95-й камеры» Тодар Лебяда спавядаўся:

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасці сёння*
*Можна сніць і марыць.*
*За тое,*
*Што я толькі — беларус, —*
*Мне гэтакая кáра!*
*Я кáру іхнюю*
*З пагардаю прыняў,*
*Бо я — сын верны*
*Маці-Беларусі!*
*І я святога,*
*Гордага імя*
*Не адракуся!*

Зноў жа — на жаль — згадваюцца і «не сонечныя» лёсы іншых «літаратурных сядзельцаў» клятай мінскай турмы — ад Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Якуба Коласа, Каруся Каганца — да Уладзіміра Някляева, Зміцера Дашкевіча, Паўла Севярынца, Аляксандра Фядуты, Андрэя Скурко ды сотняў іншых...

І такія вершы, як у Тодара Лебяды, правільней — душэўна-спавядальныя лірычныя выкрыкі-лісты, пісаліся і пішуцца па-сёння. Як, напрыклад, гэты сібірскі (чытай: акрэсцінскі, ізалятарскі):

*З усходу дзікага —*
*Людскное дамавіны,*
*Пішу мой ліст,*
*Бо гэтыя снягі*
*Трывожаць часта*
*Доўгія ўспаміны*
*Аб вельмі блізкім,*
*Вельмі дарагім.*
*Успомніш Беларусь,*
*І кроў у жылах стыне...*
*Куды не йдзеш —*
*З табой адна туга...*
<...>

*Ізноў пішу,*
*Бо сум ізноў без меры;*
*Пішу табе*
*З сібірскае глушы.*
*Часамі горыч*
*Вылееш на паперы,*
*І ўсё лягчэй*
*Здаецца на душы...*

(З цыкла «Вершы для сябра».)

Як паэт, Тодар Лебяда — спавядальна-маркотны, шчымліва-шчыры ў сваіх пачуццях. У творчым выяўленні ён найперш прадаўжальнік паэтычнай стылістыкі і вобразнасці «народна-песеннай» традыцыі Францішка Багушэвіча, Якуба Коласа, Міхася Чарота (нагадаем ягонае: «Я прысягаю вам сябры, мае палі, мае бары, / Кажу вам: я не вінаваты»).




*Я ўсёй душой*
*Любіў загонаў мову.*
*Я ўсёй душой*
*Любіў мой родны край...*
*І вось мяне,*
*Як злодзея, сурова*
*Зладзейскі суд*
*Без жалю пакараў.*
*Зладзейскі суд!..*
*То ж ён чырвонай зграі*
*Душу сваю*
*За медзякі прадаў!..*

(З ужо цытаванага цыкла Тодара Лебяды «Вершы для сябра».)

А яшчэ — далей у часе — тэматычна-асацыятыўна чуецца ў некаторых яго вершах... хрэстаматыйная «Железная дорога» Мікалая Някрасава:

*Видишь, стоит, изможден лихорадкою,*
*Высокорослый больной белорус...*
<...>
*Не разогнул свою спину горбатую*
*Он и теперь еще: тупо молчит*
*И механически ржавой лопатою*
*Мерзлую землю долбит!*

У Тодара Лебяды:

*Ты чуў не раз*
*Чыгунку за Байкалам,*
*Ды мо не чуў*
*Пра здзекі і прымус:*
*Бо тут цяпер*
*Амаль пад кожнай шпалай*
*Ляжыць замучаны*
*Ў выгнанні беларус.*

Тыповыя лірычныя вобразы Тодара Лебяды — васількі, жытнёвае поле, жўравы, гусляр... У апошняга сустракаецца і алегарычнае пераствараэнне-персаніфікацыя, сустракаецца своеасаблівы дублёр. Калі гусляра знішчаюць, яго месца займае новы «песеннік» — тыран-сатана:

*Гэтым годам ля прыгорку*
*На узлессі*
*Твой гусляр, здаўна каханы,*
*Даканаў.*
*Змоўклі родныя*
*Чаруючыя песні...*
*Там гуляе адмысловы*
*Сатана...*

Гуляе такі ж тыран, як і ў Мандэльштамаўскім вершы «Горец»:

*Мы живем, под собою не чуя страны,*
*Наши речи за десять шагов не слышны,*
*А где хватит на полразговорца,*
*Там припомнят кремлевского горца.*

Не адчуваў пад сабой сваёй краіны-Беларусі ў той жа самы час і Тодар Лебяда...

Большасць жа яго вершаў — апісальна-эмацыйныя, з рэдкай метафарычнай квяцістасцю. Сваёй танальнасцю яны часта паўтараюць творы паэтаў паэтычнага пакалення 1920-1930-х гадоў, найлепшыя з іх родняцца з шэдэўральнымі вершамі Паўлюка Труса. Нагадаем:

*Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы,*
*Падаюць бялюткі за маім акном...*

У Тодара Лебяды:

*Адцвітаюць ружы, / І з вялікім болем*
*Падаюць пялёсткі / Долу ды на рунь...*

(З верша «Адцвітаюць ружы.)

Паэтычныя кветкі Тодара Лебяды зацвіталі годна, натхнёна і ўпэўнена, але былі апаленыя ледзяным ліхалеццем часу і не складіся ў самавіты кветнік...

З невялікай кніжнай нізкі апавяданняў найперш вылучаюцца тэксты іранічна-сатырычнага характару, у якіх Тодар Лебяда выявіўся як майстар яскравых дыялогаў, псіхалагічна-дакладнага ды інтрыгуючага сюжэта, дынамічнага і кароткага, а таксама запамінальны тыповасцю сваіх персанажаў (як у апавяданні «Заможны»).

Надзвычай яскрава і эфектна выпісаны ў апавяданні «Да маці ў госці» (1960 год) эпізод наведвання Сцяпанам Мяцеліцам старой маці. Едучы на машыне ў сваю вёску, ён па дарозе не захацеў паспрыяць-падвезці кволую бабульку, якая і аказалася ягонай маці, — а тая пехатой дабіралася з далёкай крамы з цяжкімі клункамі — прадуктамі, каб пачаставаць сына.

У кнізе сабраныя і ўсе вядомыя п'есы Тодара Лебяды. Найбольш значная з іх — драма «Загубленае жыццё», у сюжэтных калізіях якой — трагічны лёс сялянаў на прыкладзе асобнай вёскі, сямейная трагедыя сям'і Прыдарожных (раскулачванне, паламаны лёс дачкі), нечаканая адплата крыўдзіцелям...

Паводле сваёй жанравай спецыфікі п'есы не могуць жыць адно «на паперы», без адмысловага суаўтарства рэжысёра, артыстаў, дэкаратараў (акрамя асобных так званых п'есаў для чытання). Сцэнічны лёс згаданага твора Тодара Лебяды, будзем спадзявацца, яшчэ не завершаны, хоць пастаноўкі драмы з поспехам прайшлі ў Віцебску і Менску, але толькі ў час нямецка-фашысцкай акупацыі...

«Загубленае жыццё» — аб тым, як сялянне сілай заганяюцца ў калгасы, як над імі пануюць агітатары, як лайдакуе колішняя вясковая беднота... Запамінаюцца і прасцяца ўцэлы многія дыялогавыя рэплікі герояў п'есы:

*«Нам камуністычная партыя загадала пайсці ў калгасы таму, што ў нас аб'яўлены поўны сацыялізм. А пакалькі ў нас поўны сацыялізм, дык нам цяпер патрэбны і калгасы...»* (так «вяшчае» на сходзе мясцовы агітатар-«ідэолаг» Сцяпан Дышла). Яму дасціпна адказвае дзед Змітрок: *«Калі кароўку даглядае сама гаспадыня, дык яно, малачко гэтае самае, будзе, людцы, будзе... А вось жа, гэтае самае, калі кароўку, знацца, усе будуць даглядаць, дык малачка не будзе, людцы, не будзе».*

Сённяшнія ж сцэны Віцебска і Мінска «не падрыхтаваныя» да пастаноўкі згаданай п'есы Тодара Лебяды, у фінале якой




некалі заможны вясковец, а затым «вораг народа» гаворыць, паказваючы на камісара: *«Вось яны адабралі ў нас усё, выгналі нас з нашае хаты, знішчылі нас, душылі нас у канцлагерах, а мы ўсё ж такі жывем, дзеткі! <...> Як яны не знішчаюць наш народ, а ўсё ж жыве Беларусь!»*...

Асобны раздзел кнігі — эпісталярны. Гэта шчырыя ды інфармацыйна насычаныя лісты дачкі Тодара Лебяды Алы Козел да даследчыка Сяргея Чыгрына. Чытаючы іх, усведамляеш, што гэтае выданне мае двух аўтараў: бáцькі і дачкі. Голас апошняй — як спавядальнае дапаўненне да недаробленага пісьменнікам. У тым галасе — душэўны і прачулы боль, мемуарныя згадкі, пра якія не мог распавесці Тодар Лебяда за Саветамі і не паспеў у віхуры акупацыі:

«"Сядзім у камеры, — распавядаў бацька, — і выдумляем сабе самі якуюсьці віну, толькі каб не катавалі, лепей смерць, чым пакуты";

«І вось — суд. <...> Мне ўжо амаль пяць гадкоў. Бацьку я не ведаю, хаця многа чула пра яго.

У зале суда шмат народу <...>. Чую, маці, падхапіўшы мяне на рукі, шэпча: «Алеська, во татку нашага вядуць...». І паднімае мяне вышэй, каб тата нас убачыў. А я гляджу: вядуць нейкага дзядулю ў блакітным світары, з доўгай сівой барадой. <...> А было нашаму "дзядулю" ўсяго 26 гадоў»...

Але ў песнях гэтага «дзядулі» — дзякуючы яму ды захавальнікам ягонай творчай спадчыны — і сёння гучаць маладыя, бадзёрыя, нязломныя, свабодалюбныя і актуальныя ноты:

*Выйду зноў у ранняе прадвесне*
*Сустракаць цудоўную зару...*
*Для цябе сягоння мая песня,*
*Дарагая сэрцу Беларусь!..*

*На твае на бáцькаўскія гоні,*
*На палёў нязведаную шыр*
*Песню гордую Крывіцкае Пагоні*
*Я нясу ад шчырае душы...*

(З верша «Песня маладосці».)

# Юбілейны Дастаеўскі: Карані маральныя і зямныя

Бадай, адной з самых значных пісьменніцкіх юбілейных датаў адыходзячага 2021 года было 200-годдзе Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага. І прайшла яна калі не сціпла, дык малазаўважна. Прынамсі, у постсавецкай культурнай прасторы. Не блізкі сваімі маральнымі імператывамі для цяперашніх новаімперскіх ідэолагаў сусветны класік.

У пераважнай большасці юбілейнага «масіву» інфармацыі, прысвечанага творцу, былі развагі пра біяграфію ды нацыянальную прыналежнасць Фёдара Міхайлавіча.

Так, «Российская газета» гучна нагадала і пра беларускія сляды ў жыццяпісе пісьменніка.

«У некаторых біяграфіях можна прачытаць пра тое, што класік, маўляў, нічога не казаў аб сваіх продках і ніколі не звяртаўся да генеалагічных аргументаў, — адзначыў у названым выданні Юрый Барысёнак (што паказальна: гісторык, які нарадзіўся ў Полацку). — У рэальнасці ён меў дастаткова дакладнае ўяўленне аб фамільных каранях».

Юрый Барысёнак найперш спаслаўся на сведчанні жонкі і дачкі Фёдара Дастаеўскага: «Удава пісьменніка Ганна Рыгораўна ў 1897 годзе пісала ў Мінскую губерню святару А. Кульчыцкаму: “Мой нябожчык муж Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі шмат разоў казаў мне, што яго род паходзіць з Літвы ад пінскага маршалка Дастаеўскага, абранага ў сейм у 1598 годзе. Пётр Дастаеўскі і яго нашчадкі жылі ў Дастоеве”. Згаданая ў такім кантэксце Літва абазначае тагачасную прыналежнасць гэтых мясцінаў Вялікаму Княству Літоўскаму. Дастоева ж, цяпер аграгарадок у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці, здабыла еўрапейскую вядомасць пасля таго, як дачка класіка Любоў Фёдараўна Дастаеўская (1869—1926) у 1920-м выдала кнігу на нямецкай мове, першая частка якой менавалася “Паходжанне роду Дастаеўскіх”. “Продкі майго бацькі паходзілі з Мінскай губерні, дзе недалёка ад Пінска і дагэтуль існуе месца, якое называецца Дастоева, былы маёнтак бацькавай сям'і…Дастаеўскія былі шляхціцамі і належалі да “Герба Радвана”».

Знайшлося месца ў згаданым артыкуле ў «Российской газете» і палеміцы з польскімі даследчыкамі. Працытуем яшчэ: «І сам Дастаеўскі, і яго блізкія пасля яго смерці мелі далёка не самыя падрабязныя звесткі аб пачатковым этапе сямейнага радаводу. Гэта дазваляла паспрабаваць усумніцца ў тым, што карані Фёдара Міхайлавіча з той шляхты, што валодала Дастоева. Менавіта так і паступіў вядомы польскі журналіст, палітык і пісьменнік Станіслаў Цат-Мацкевіч (1896—1966) у сваёй яркай кнізе “Дастаеўскі”, выдадзенай у Польшчы ў 1957 годзе і перавыдадзенай у рускім перакладзе ў 2021-м намаганнямі Фонду “Расійска-польскі цэнтр дыялогу і згоды”. Польскі аўтар катэгарычна адмаўляўся быць у адной шляхецкай карпарацыі з чалавекам, якога ён лічыў выключна рускім класікам. Цат-Мацкевіч спрачаўся з Любоўю Дастаеўскай і запэўніваў: “…Дастаеўскі, які ненавідзіць каталіцызм і палякаў, звяртаецца да тых Дастаеўскіх герба Радвана, каб хоць крыху пазаліцца сабе калыску”. Паводле гэтай версіі атрымлівалася, што былі дзве розныя галіны Дастаеўскіх: тыя, што валодалі Дастоевам, былі шляхціцамі, а продкі класіка з Валыні і Падолля належалі да духавенства.

Сучасныя пошукі, у тым ліку і ў беларускіх архівах, здольныя пераканаўча разабрацца ў асаблівасцях радаводу класіка і абвергнуць здагадкі Цата-Мацкевіча».

Юрый Барысёнак спасылаецца на «Хронику рода Достоевских», выдадзеную ў 2013 годзе пад рэдакцыяй вядомага даследчыка творчасці класіка Ігара Волгіна (гэта больш за 1200-старонкавы фаліянт). Прыведзеныя там крыніцы паўтараюць ранейшыя звесткі і яшчэ раз даказваюць, што прозвішча «Дастаеўскі» з'явілася ў XVI стагоддзі менавіта ад назвы на сёння беларускага паселішча Дастоева, а першым Дастаеўскім стаў сын заснавальніка роду Данілы Іванавіча Рцішчэвіча Іван Данілавіч, якому Дастоева было падаравана 6 кастрычніка 1506 года. Да XVIII стагоддзя сям'я збяднела, Дастоева было страчана, але Дастаеўскія з беларускага Палесся і іх нашчадкі з Валыні — гэта адна сям'я, а не дзве розныя. Даследчыку з Мінска, дацэнту БДУ Дзмітрыю Башкіраву, які прыняў актыўны ўдзел у складанні хронікі роду Дастаеўскага, удалося ўстанавіць, што ў заснавальніка роду Данілы Іванавіча быў брат Рыгор Іванавіч Ірцішчэвіч Бруяка, а іх маці звалася Таццяна Іванаўна Рцішчавічавая. Дзмітрый Башкіраў мяркуе таксама, што Дастоева ў 1506 годзе магло быць не падорана, а было часткай спадчыны.

Зразумелыя і матывы, якія змусілі некаторых продкаў Фёдара Міхайлавіча перасяліцца з беларускага Палесся на Валынь і перайсці са шляхецкага ў духоўнае саслоўе.

Духоўная кар'ера, якую абралі прадзед Дастаеўскага Рыгор і яго дзед Андрэй (яны сталі ўніяцкімі святарамі), у цяжкія часы спрыяла захаванню і сацыяльнага



Фота Сяргея Міхеева

дабрабыту. Страчанае ж дваранства пасля «далучэння» родных мясцін Дастаеўскіх у Расійскую Імперыю можна было выслужыць, што і здзейсніў бацька пісьменніка ў 1828 годзе.

Да ўласнага асвятлення генеалагічнага дрэва Фёдара Дастаеўскага ў яго юбілейны год далучыўся і «Украінська літературна газета». Пятро Кралюк, старшыня Вучонага савета Нацыянальнага ўніверсітэта «Астрожская акадэмія», апублікаваў у ёй артыкул «200-годдзе. Украінскія карані Фёдара Дастаеўскага…» (упершыню быў апублікаваны на сайце radiosvoboda.org у ліпені 2021 года).

Аўтар адзначае наступнае: «Калі казаць пра паходжанне рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага (1821—1881), вядомага на Захадзе (дзе ён насамрэч рускі пісьменнік №1), то можна сустрэць меркаванне, што яго далёкія продкі паходзілі з Беларусі. Даніла, які заснаваў род Дастаеўскіх, належаў да татарскага роду Рцішчаў. Прыехаў з Масковіі ў Пінск. І тут у 1506 годзе ён авалодаў вёскай Дастоева. Ад назвы гэтай вёскі паходзіць назва роду Дастаеўскіх. Цяпер вёска ўваходзіць у склад Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці Беларусі. Аднак гэта не беларуская, а ўкраінская этнічная тэрыторыя (?! — **Рэд.**). Сам Достоеў знаходзіцца недалёка ад цяперашняй мяжы Украіны і Беларусі. Аднак продкі Дастаеўскага жылі не столькі ў Дастоеве, колькі на Валыні, а дакладней на Ковельшчыне. У 70-я гады XVI стагоддзя тут жыў нейкі Феадор Дастаеўскі, які служыў пры князі Андрэі Курбскім. У 1664 годзе ў вёсцы Секун, што пад Ковелем, згадваецца яшчэ адзін прадстаўнік роду Дастаеўскіх. Ёсць некаторыя звесткі пра іераманаха Кіева-Пячэрскай лаўры Акіндзія Дастаеўскага, які жыў у XVII ст. “Калі мае продкі, — пісала дачка пісьменніка Любоў Дастаеўская (1869—1926), — пакінулі цёмныя лясы і балоты Літвы, іх, напэўна, асвяціла святло, кветкі і эліністычная паэзія Украіны; іх душы сагрэліся паўднёвым сонцам і выліліся ў вершы”. Любоў Дастаеўская, абапіраючыся на сямейныя паданні, расказвала, што адзін з яе продкаў у XVII стагоддзі напісаў “букалічную паэму”, якая, аднак, не захавалася. Аднак да нас дайшоў верш ад пачаеўскага “Багагласніка” (1790), у якім быў верш з подпісам Дастаеўскага. Гэты зборнік, выдадзены ў Пачаеўскім манастыры айцоў базыльянаў (у той час ён быў уніяцкім), з'яўляецца ўнікальным помнікам украінскай культуры. Гэта своеасаблівы вынік больш чым 200-гадовай традыцыі стварэння духоўных песень ва Украіне… У 1775 годзе Дастаеўскія вымушаны былі пакінуць Валынь… Затым прадзед Фёдара Дастаеўскага, Грыгорый Гамеравіч, пераехаў на Усходнюю Валынь, у Янушпаль, дзе стаў грэка-каталіцкім (уніяцкая тэрміналогія на той час) святаром. Два яго сыны таксама былі святарамі. Адзін з іх, Андрэй, дзед пісьменніка, у 1782—1820 гадах служыў у вёсцы Війтаўка на Падоллі. Яму давялося перайсці з уніі ў праваслаўе. У Війтаўцах святаром служыў і яго сын Леў. Яшчэ адзін сын, Міхаіл, бацька пісьменніка, рыхтаваўся да святарскай кар'еры, вучыўся ў Падольскай семінарыі ў Шаргарадзе. Адтуль яго як аднаго з лепшых студэнтаў накіравалі вучыцца ў Медыка-хірургічную акадэмію ў Маскву, дзе і ўладкаваўся. Фёдар Дастаеўскі нарадзіўся ў Маскве. Хаця бацька Фёдара Дастаеўскага быў у Маскве, ён сфармаваўся ва ўлонні традыцыйнай культуры ўкраінскага духавенства. І гэтую культуру, прынамсі часткова, ён перадаў сыну. Ці не адсюль глыбокая рэлігійнасць Фёдара Дастаеўскага, якая мела мала агульнага з рускай рэлігійнасцю, але якая ўпісваецца ў кантэкст рэлігійных традыцый Украіны XVI—XVIII стагоддзяў? Бо ў творчасці пісьменніка прыкметныя “ўкраінскія сляды”. Напрыклад, у першым творы Фёдара Дастаеўскага “Бедныя людзі” шмат украінскага. Гэта сардэчнае стаўленне да бедных, пакрыўджаных людзей… (? — **Рэд.**) У рамане таксама шмат украінізмаў. Так, герой рамана часта звяртаецца да гераіні твора “мая маленькая”. Ёсць нават слова — “гвалт”, якое ў рускай гаворцы не ўжываецца. Аднак яно прыйшло з нямецкай мовы праз польскую мову і шырока выкарыстоўвалася на Валыні. “Украінскія сляды” можна знайсці і ў іншых творах пісьменніка, асабліва ў творчасці ранняга перыяду. Канешне, няма сэнсу “забіраць” Фёдара Дастаеўскага з рускай літаратуры. Аднак нельга забываць, што ён міжволі ўвёў у гэтую літаратуру “частку Украіны”. Таму маем падставы ставіцца да гэтага пісьменніка як да свайго».

Канец цытаты…

Прыведзеныя «ўкраінізмы» Дастаеўскага ў беларускамоўнага чытача, безумоўна, выклікаюць усмешку, чаго не скажаш пра «не беларускую, а ўкраінскую этнічную тэрыторыю» ў адносінах да Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. І гэта — у публікацыях «Радыё Свабода» і дэмакратычнага літаратурнага выдання! У час анэксіі Крыма, «этнічнай зачысткі» ўкраінскіх Данеччыны і Луганшчыны каментаваць агучанае Пятром Кралюком будзе залішнім…

Бо ў час выразання і перакопвання дзяржаўных (зямных) каранёў найбольш важнымі і значнымі застаюцца карані маральныя, духоўныя, і сярод іх асноўнага вязьма, іх канцэптуальна-ідэалагічнага наратыва застаецца галоўная ідэя творчасці Фёдара Дастаеўскага пра «вышэйшую гармонію», якая, паводле пісьменніка, «не вартая слязінкі хаця б аднаго толькі замардаванага дзіцяці». А ў нашыя дні — сотні слязінак дзяцей забітых абаронцаў Усходу Украіны ды сотні дзяцей, бацькі і маці якіх сядзяць у беларускіх турмах.

У нашай і згаданых суседніх дзяржавах галоўны пасыл Фёдара Дастаеўскага застаецца актуальным і «слязацечным»: нельга намагацца дасягнуць аніякіх, нават самых высокіх мэтаў за кошт пакутаў нявінных людзей.

А таму і пытанне аб этнічнай прыналежнасці далёкіх продкаў Дастаеўскага ў яго юбілейны год — далёка не першаснае.

**Ян ГАНАРОВІЧ**

# Прэмія Angelus

Сёлета прэмію атрымала ўкраінская пісьменніца Кацярына Бабкіна — за кнігу «Мой дзед лепш за ўсіх танцаваў». Пра гэта паведаміў партал Zahid.net са спасылкай на афіцыйны сайт Прэміі Angelus. Узнагарода прысуджана па выніках інтэрнэт-апытання чытачоў.



36-гадовая ўкраінская пісьменніца з Івана-Франкоўска Кацярына Бабкіна атрымала галоўны літаратурны прыз Цэнтральна-Еўрапейскай прэміі, якая ўручаецца штогод за найлепшую кнігу прозы, выдадзеную на польскай мове. Кніга распавядае пра пяць сем'яў, малодшая з якіх сустракаецца ў першы год незалежнасці Украіны ў школе. Дзеці пазней становяцца лепшымі сябрамі, а аповеды іх сем'яў пра перыпетыі, якія давялося перажыць кожнаму, — «той ніткай, з якой Бабкіна ўмела сшывае гісторыі». Гаворка ідзе пра шэраг трагічных падзей у гісторыі Украіны — ад 1920-х гадоў у Харкаве і знішчэння тэатра Леся Курбаса, Галадамору, Другой сусветнай вайны, 1990-х гадоў і некалькіх хваляў эміграцыі перад вайной на Данбасе. Пераклаў кнігу польскі літаратуразнаўца Багдан Задура.

Кацярына Бабкіна атрымае каля 40 000 долараў ЗША. Таксама пісьменніца ўзнагароджана трохмесячнай стыпендыяй у рэзідэнцыі ва Ўроцлаўскім Доме літаратуры.

Кацярына Бабкіна — пісьменніца, сцэнарыст і драматург. Аўтарка 13 зборнікаў паэзіі і прозы для дзяцей і дарослых. Яе творы перакладзены на польскую, чэшскую, рускую, румынскую, нямецкую, англійскую, французскую і шведскую мовы.

Літаратурная Беларусь
Тэлефон для даведак: **(8-017) 354-80-91.**
Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: **novychas.online і kamunikat.org.**